


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша Слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 8 (547) | 20 ЛЮТАГА 2002 г.


## *ЛАРЫСА ГЕНІЮШ – НЕ ВІНАВАТАЯ*

1 лютага па ініцыятыве Саюза беларускуіх пісьменнікаў і грамадска-асветніцкага клуба "Спадчына" адбыўся "круглы стол", дзе абмяркоўвалася пытанне рэабілітацыі Ларысы Геніюш. Справа ў тым, што выдатная беларуская паэтка пайшла з жыцця так і не дачакаўшыся свайго апраўдання. З гэтай прычыны ўлады не дазваляюць беларускай інтэлігенцыі нават усталяваць ужо гатовы помнік Ларысы Геніюш на ейнай радзіме ў Зэльве. Была выказана прапанова зрабіць гэта на прыватнай сядзібе, але ўдзельнікі палічылі яе непрымальнай і акрэслілі іншы шлях. Адвакат Гары Паганяйла лічыць, што варта звярнуцца ва ўрад Чэхіі з просьбай, каб той прызнаў незаконным рашэнне адпаведных органаў Чэхаславакіі, прынятае ў 1948 годзе, аб скасаванні грамадзянства Ларысы Антонаўны. Тады ўрад Чэхіі зможа абараняць яе, як сваю грамадзянку. А новыя акалічнасці па справе паэткі дадуць падставы Вярхоўнаму суду Беларусі адмяніць сваё рашэнне ад 24 лістапада 1999 года, паводле якога Ларысе Геніюш было канчаткова адмоўлена ў рэабілітацыі. Адзначалася, што такое рашэнне несправядлівае і неабгрунтаванае. Абвінавачванне паэткі ў кантррэвалюцыйнай антысавецкай дзейнасці выглядалі абсурднымі, бо за ёй няма аніякай віны ні перад савецкай дзяржавай, грамадзянкай якой яна ніколі не была, ні, тым болей, перад беларускім народам. Удзельнікі "круглага стала" пагадзіліся на тым, што трэба стварыць арганізацыйны камітэт і патрабаваць адмены безпадстаўнага рашэння Вярхоўнага суда Беларусі.

Вольга Іпатава падзялілася ўспамінамі пра паездку групы пісьменнікаў на пахаванне паэткі.

*Ірына Ляксеева.*

## *Памяці Ўладзіслава Чарняўскага*

23 лютага 2002 года а 16 гадзіне ў бібліятэцы імя Адама Міцкевіча, што месціцца ў Менскім касцёле Святых Сымона і Алены на плошчы Незалежнасці, адбудзецца вечар святой памяці ксяндза Ўладзіслава Чарняўскага. У праграме – прагляд відэафільма пра жыццёвы шлях ксяндза Ўладзіслава, успаміны людзей, якім пашчасціла сустрэцца з гэтым цудоўным чалавекам.

Адбудзецца таксама прэзентацыя кнігі "Шлях да святыні". Кніга гэтая для дзяцей і моладзі. Яна дапаможа ім знайсці адказы на шматлікія пытанні, даведацца пра асноўныя святы.

А 17 гадзіне адбудзецца Святая Імша за ксяндза Ўладзіслава Чарняўскага.

*Ірына Ляксеева.*

## Рэспубліканская Рада ТБМ

10 сакавіка 2002 года ў памяшканні менскага кінатэатра "Змена" (вул. Даўгабродская, 4, трамвай № 3, 6, 7, 8) адбудзецца паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Францішка Скарыны.

**Пачатак працы а 14 гадзіне.**

Парадак дня:

1. Абмеркаванне і зацверджанне асноўных кірункаў "Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі".
2. Аб святкаванні юбілеяў Янкі Купалы і Якуба Коласа.
3. Аб адкрыцці ў ВНУ беларускамоўных групаў і плыняў.
4. Беларуская мова на БТ-2.
5. Рознае.

Транспартныя выдаткі сплочвае Таварыства.

**Сакратарыят.**

## Паседжанне Рабочай групы па выпрацоўцы Стратэгіі развіцця беларускай мовы

17 лютага адбылося паседжанне Рабочай групы па выпрацоўцы Стратэгіі развіцця беларускай мовы. Былі разгледжаны варыянты структуры, прапанаваныя Станіславам Суднікам і Сяргеем Запрудскім. Рабочая група пасля абмеркавання вырашыла вынесці абедзве структуры на разгляд Рэспубліканскай Рады ТБМ, якая адбудзецца 10 сакавіка.




### *Ахвяраванні на ТБМ*

**СШ № 193 г Менска (вучні).**

1. Кандрацэнка Алякс. – 400 р.
2. Дземідкова Алена – 100 р.
3. Жураўлёва Ганна – 100 р.
4. Карчэня Юлія – 100 р.
5. Бархавецкі Ігар –300 р.
6. Лапко Дзм. – 200 р.
7. Харэвіч Павел – 300 р.
8. Караленя Андрэй – 100 р.
9. Кулакова Аня – 100 р.
10. Вечар Аляксандр – 400 р.
11. Сушчэўская Святлана – 100 р.

*Разам -- 2200 р.*

12. Кляшчук Сяргей (Менск) – 1000
13. Суполка "Рэфармацыя" (Менск) – 30$
14. Аляксандр Калінін (Менск) – 10$
15. Мікола Дзямід (Менск) – 10.000 р.
16. Царква "Благадаць" (Менск) – 20.000 р.
17. Анатоль Сазонаў (Слуцк) – 1000 р.
18. Ала Нароўская (Менск) – 5.000 р.
19. Уладзіслаў Жыгалка (Менск) – 1000 р.
20. Іпатава Вольга – 2500 р.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белінвестбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

# *ЛіМу – 70*





1 ЛЮТАГА 2002г. | № 5/4139 | КОШТ 280 РУБ.

ПРЫЧАСЦЕ БУЙВАЛА

Вольга ІПАТАВА: «Беларускаму пісьменніку, як ён ні спрабуе ад гэтага ўхіліцца, трэба зноў і зноў вырашаць, кожнаму для сябе і ўсім разам, чым кіравацца ў жыцці, у творчасці, у грамадскай дзейнасці— прычасцем кветкі ці прычасцем буйвала».

4

ЛЮДЗІ

Паўла ВЕРАБ'ЁВА ў рубрыцы "Лінія жыцця"

**Спадару Алесю Пісьмянкову,**
**Галоўнаму рэдактару газеты "Літаратура і мастацтва"**

### Дарагія лімаўцы!
### Родная нашая крывінка!
### Выспачка беларушчыны ў бязмежным моры русіфікацыі!

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны шчыра віншуе вас з юбілеем. 70 гадоў, як для чалавека, - узрост сталасці, багатага досведу, мудрасці. Тое ж можна сказаць і пра газету, якую ствараюць і сілкуюць сваім талентам незвычайныя людзі, гатовыя на любыя ахвяры дзеля азнаямлення беларускага люду з багатай палітрай культурнага жыцця нашай незалежнай – хацелася б верыць, што гэта так і ёсць, - Беларусі.

На вашу долю выпаў не лепшы час. Ужо каторы раз за апошнія гады над "ЛІМам" навісае пагроза яе аб'яднання з іншымі выданнямі, нейкі перетрус. Камусьці хочацца хутчэй пазбавіцца гэтага наскрозь беларускага выдання. Беларуская мова і яе носьбіты ды абаронцы церпяць нападкі і знявагу. Створаныя ўмовы, калі галоўны духоўны скарб народа становіцца непатрэбным гэтаму народу. Вы, як ніхто іншы, адчуваеце гэта на сабе. Але мы ўпэўненыя, што вашая трывучасць пераможа. З вамі – мільёны. І праўда – наша, беларуская.

Вельмішаноўны спадар Алесь, Таварыства ўдзячнае Вам, што ў Вашай асобе мы маем аднадумца і разам, перакананыя ў гэтым, - спраўдзім тое, дзеля чаго жывем і працуем. Нашыя ідэалы – нязменныя. Моцна трымайце ў сваіх руках нязгасную паходню святла сваіх прыхільнікаў, каб не збочыць з абранага, раз і назаўсёды, шляху.

**Старшыня**
**ТБМ імя Францішка Скарыны Алег Трусаў.**

## *Курбан-Байрам у Беларусі*

22 лютага мусульмане Беларусі, як і ўсяго свету адзначаюць найвялікшае свята Ід аль-Адха або Ід аль-Кабір, якое ў цюркскіх народаў, у тым ліку і ў беларускіх татараў, называецца Курбан-Байрам (свята ахвярапрынашэння). Свята доўжыцца 3-4 дні. Яно супадае з днём завяршэння хаджу —паломніцтва ў святыя для мусульман месцы – Мекку і Медыну. Традыцыя гэтага свята ўзыходзіць да вядомай гісторыі аб гатоўнасці Ібрагіма (Аўраама) прынесці свайго сына ў ахвяру Богу. За тое, што Ібрагім вытрымаў гэтае выпрабаванне, Усявышні дабраславіў яго і абяцаў памножыць яго племя і зрабіць шматлікім як зоркі на небе і як пясок на беразе мора.

У дні свята ва ўсім мусульманскім свеце вернікі прыводзяць на ахвяру жывёл у памяць пра гатоўнасць Ібрагіма ахвяраваць свайго сына. На Беларусі паводле дадзеных перапісу 1999 г. пражывалі каля 30 тысяч татараў, азербайджанцаў, башкіраў, узбекаў, туркменаў і іншых (усяго 27 народаў), якія традыцыйна вызнаюць Іслам. Яны аб'яднаны ў 27 мусульманскіх абшчын. Дзейнічаюць 7 мячэцяў: у Іўі, Навагрудку, Слоніме, Смілавічах, Відзах, Клецку і Лоўчыцах. У 1994 г. адбыўся Першы Усебеларускі з'езд мусульман у Менску, які абвясціў утварэнне Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь, кіруючым органам якога з'яўляецца муфціят на чале з муфціем. 23 лютага ў сталічным Палацы ветэранаў з нагоды свята Курбан-Байрам адбудзецца ўрачысты сход і канцэрт.



№ 8 (547) 20 ЛЮТАГА 2002 г. НАША СЛОВА





**Васіль Ліцьвінка**

# “Дзядзька Рыгор”

## *Імпрэза ў “Змене”*

*У зале сталічнага кінатэатра “Змена” 10 лютага зранку было людна. Чарговая імпрэза з цыклу “Славутыя сыны Бацькаўшчыны”, прысвечаная 110-годдзю Рыгора Раманавіча Шырмы сабрала шмат прыхільнікаў беларускага кіно і народнай песні.*

*У падрыхтоўцы мерапрыемства прымалі ўдзел творчая грамадскасць горада, Саюза беларускіх фалькларыстаў.*

*Невялікая зала кінатэатра ветліва запрашала людзей мілагучнымі запісамі беларускіх народных песень “Любдю наш край”, “Ой, не вылятай сіва зязюлька”, “Ці свет, ці світае” і інш. у выкананні Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы (запісы з фондаў беларускага радыё).*

*Распачала імпрэзу студэнтка Беларускага універсітэта культуры Рэната Руднёва, апранутая ў прыгожыя беларускія строі, яна выканала народныя песні сваім цудоўным вытанчаным сапрана.*

*Тут сапраўды было што паглядзець і шмат каго паслухаць.*

*Тэлевізійная стужка “Песня на ўсё жыццё”, створаная яшчэ ў 1985 годзе, актуальная і зараз. Распавядае яна пра незвычайнага чалавека вялікага таленту Рыгора Раманавіча Шырму, які стварыў і ўзначальваў доўгі час адзін з лепшых прафесійных калектываў харавога мастацтва. Фільм уразіў гледачоў маляўнічымі краявідамі, вытанчаным рэжысёрскім густам, стужка пеставала слых прысутных цудоўным выкананнем артыстаў харавой капэлы мноства беларускіх народных песень “Зорка Венера”, “Ой, не кукуй, зязюленька”, “Шумелі бярозы”, “Ой, рана на Івана”, “Чырвоная каліванька”...*

*У фільме шырокім планам паказаны велічныя постаці знакамітых людзей Заіра Азгура, Густава Эрнэсакса, Максіма Танка, Янкі Брыля, успаміны дачкі Рыгора Раманавіча Алены і сына Расціслава.*

*Рэжысёр дакументальнага тэлефільма Людгард Гедравічус расказаў прысутным пра работу над фільмам, дзе і як рабіліся здымкі, пра здзяйсненне задуманага як мага шырэй сродкамі кінамастацтва раскрыць веліч і талент знакамітага хормайстра, дырыжора, мастацкага кіраўніка і проста цудоўнага чалавека Рыгора Раманавіча Шырмы.*

*Аўтар сцэнарыя тэлефільма Арсень Ліс, доктар філалагічных навук, расказаў, як пісаўся сцэнарый пра нялёгкі жыццёвы і творчы шлях Рыгора Раманавіча, розныя перыпетыі яго лёсу, пра незвычайную прыгажосць яго душы. Сакрэты Шырмаўскага дырыжорскага майстэрства, адзначыў выступоўца, яшчэ чакаюць сваіх даследчыкаў. Шырма, мастацкі кіраўнік, дырыжор – гэта цэлая школа харавога мастацтва, якое выйшла за рамкі нацыянальнай культуры.*

*Надзвычай добрае ўражанне на прысутных зрабіў філасофскі роздум-успамін народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля. Іван Антонавіч быў вельмі ўсцешаны тым, што адбылася імпрэза, падзяліўся ўспамінамі пра шматлікія сустрэчы і сяброўства з Рыгорам Шырмам.*

*Аляксандр Жураў, дэкан факультэта культуралогіі Беларускага універсітэта культуры, у сваім выступленні расказаў прысутным пра тое, як ён звыш 15 гадоў працаваў у капэле, пра працоўныя і жыццёвыя акалічнасці бачыць Рыгора Раманавіча ў бытавых і афіцыйных абставінах, пра сяброўства дырыжора і спевака сем’ямі. Аляксандр Васілевіч гаварыў пра тое, як кіраўнік капэлы працаваў на рэпетыцыях пры развучванні харавых твораў, як ставіўся да моладзі, як прывіваў ёй любоў да нацыянальнай песеннай спадчыны Беларусі.*

*Арганічна спалучылася з праграмай кінамерапрыемства і своеасаблівая прэзентацыя кніжкі Аляксандра Журава “Жыццё з песняй. Біяграфічны нарыс Рыгора Шырмы. Дзённік”, якая выйшла з друку да 110-гадавіны з дня нараджэння Рыгора Шырмы. Выданне, ілюстраванае рэдкімі фотаздымкамі, куплялі гледачы і тут жа атрымлівалі аўтограф аўтара.*

*Васіль Ліцьвінка, загадчык навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору БДУ, старшыня Саюза фальклярыстаў, сённяшні нястомны прадаўжальнік справы Рыгора Раманавіча, у сваім выступленні гаварыў пра неабходнасць плённай працы сярод моладзі, пра захаванне нацыянальнай песеннай творчасці беларусаў, абавязак захоўваць і прапагандаваць народныя абрады. Ён падараваў прысутным абрадавы каляндар 2002 года.*

*Падаравалі прысутных сваім майстэрствам выканаўцы ансамбля народнай песні “Ярыца” ў складзе Бажэны Грыгор’евай, Дыяны Панасюк, Тамары Ліхадзіеўскай, а таксама Міхась Пацук з ансамбля “Вяселле” . Выкананнем народнай песні “Маруся” ён проста зачараваў людзей.*

*У імпрэзе ўзялі ўдзел кіраўнікі арганізацый якія сёння рэальна працягваюць справу ТБШ Б. Тарашкевіча і Р. Шырмы: Старшыня ТБМ імя Францішка Скарыны Алег Трусаў і Прэзідэнт ТБШ Алесь Лозка.*

*На заканчэнні імпрэзы яе ўдзельнікі спявалі ўсе разам “Зорку Венеру”. Гаманілі, дзяліліся ўражаннямі, фатаграфаваліся. Людзі прасілі ладзіць падобныя сустрэчы і надалей, уносілі прапановы, пакінулі прыемныя, добрыя запісы ў кнізе водгукаў. Ніхто не спяшаўся пакінуць кінатэатр. Гледачы гаварылі пра любоў да народнай песні і да векавых традыцый беларусаў, што асветніцкую работу трэба прадаўжаць, аб’ядноўваючы намаганні з творчымі саюзамі, грамадскасцю, выкарыстоўваць багаты кінафонд беларускага дакументальнага кіно.*

***Н. Макрыцкая.***

---

***Відовішча жыцця вялікага***
***Чалавека заўсёды ёсць***
***цудоўнае***
***Відовішча: яно ўзвышае***
***душу,***
***Мірыць з жыццём,***
***Пабуджае да дзеяння.***
***В. Бялінскі***

Услухоўваюся ў шматлікія запісы на магнітных стужках, на якіх шчаслівы лёс наканаваў запісаць такі характэрны, захаваўшы асаблівасці гаворкі родных пружанскіх мясцін, голас Р. Р. Шырмы. Гаварыў ён няспешна, але выразна, удумліва, заўсёды цікава і вобразна. Абураючыся некваліфікаваным кіраўніцтвам культуры, жартаваў: “Калі рымскаму імператару не хапіла члена сената, дык ён увёў туды каня.” Пры гэтым ён часта гаварыў, што лягчэй змяніць урад і палітычную сістэму, чым вызваліцца ад “гнюсу, машкары, камарыллі, якія ліпнуць да культуры”.

Ужо ад знешняга, у нечым блізкага да шаўчэнкаўскага вобліку Шырмы з яго горда прыўзнятай галавой, прыгожымі, чорнымі ў маладосці і пасярэбранымі з гадамі вусамі і бародкай веяла народнай жыццёвай мудрасцю, сапраўднай інтэлігентнасцю. Мяккія рысы твару, праніклівы позірк добрых шэрых вачэй з-пад навіслых броваў... Ён быў скіраваны на вас то з добрай усмешкай, то з глыбокай развагай, а, бывала, і з хітрынкай або іроніяй, але заўсёды з сапраўднай зацікаўленасцю. Нейкі своеасаблівы палымяны бляск з’уляўся ў яго вачах, калі ён пачынаў гаварыць з палемічным жарам аб галоўным прадмеце свайго жыцця – беларускай народнай песні. Многа, часта агрэсіўных, вульгарных, наскокаў вытрымаў на сваім складаным жыццёвым шляху гэты сапраўдны дэмакрат з народных нізоў, але ні разу не здрадзіў мэце свайго жыцця: “Нашу простую сялянaчку, беларускую народную песню, вывесці ў людзі і зрабіць дамай высокага культурнага свету.” Гэты поўны вялікай сыноўняй любові жыццёвы подзвіг у імя мастацтва свайго народа ён выканаў да канца.

Захапленне роднай песняй пачалося ў раннім дзяцінстве. У вялікай патрыярхальнай сям’і Шырмаў у вёсцы Шакуны на Пружаншчыне, дзе ён нарадзіўся 21 студзеня 1892 года, спевакамі былі ўсе, пачынаючы з бондара дзеда Васіля па мянушцы Майстровіч. Добра спявалі дзянна Ганна Іванаўна Шырма, яе дачка Алеся. Лепшыя калыханкі хлопчык пачуў ад маці Тэадоры Дзям’янаўны. Таленавітым выканаўцам быў бацька Раман Васілевіч, які двойчы прызываўся ў царскую армію і многа знаў казацкіх, рэкруцкіх і салдацкіх песень.

Першай песенніцай была бацькава сястра Захвея Васілеўна Хвораст. Акрамя такіх выдатных народных песень, як восеньская “Ой, не вылятай, сіва зязюлька”, Шырма запісаў ад яе радзінны і вясельны абрады. Апошні ён называў “народнай операй, дзе жыццёвы драматызм пераплятаецца з вясёлым гумарам, песня з дыялогамі, а музыка і танцы дапаўняюць і ўпрыгожваюць гэта цудоўнае народнае прадстаўленне, якое заўсёды мае шчаслівы канец”. Аб багацці паэтычнай душы цёткі Захвеі ён пісаў у 1941 у артыкуле “Выдатная песенніца з народа”.

Рыгор Раманавіч часта ўспамінаў, як яго глыбока кранулі словы А. Фадзеева. Безнадзейна хворы пісьменнік, вялікі аматар харавых спеваў, у 1955 годзе праслухаў па радыё канцэрт Дзяржаўнай капэлы БССР з Калоннага зала Дома Саюзаў і напісаў кіраўніку калектыву Р. Шырму: “А вы самі знаеце, як гэта дзейнічае на душу, калі ў незвычайна майстэрскім, пранікліва выкананні пачуеш тое (або роднаснае), што спявала табе маці ў дзяцінстве.”

Першым, хто дапамог Шырму адчуць прыгажосць харавых спеваў, быў хатні настаўнік у Шакунах, былы семінарыст Салук. Любоў да песні ўзрасла ў час вучобы ў Пружанскай гарадской навучальні. Таленавіты хлопчык ужо праз год стаў лепшым вучнем, іграў на струнных інструментах і ўдзельнічаў у аркестры і хоры навучальні.

Моцна ўразіла юнака тое, што ў хоры не спявалі беларускіх песень. Яшчэ большае абурэнне выклікалі шавіністычныя наскокі на родныя песні, калі іх называлі перакручанымі рускімі ці ўкраінскімі або ўвогуле адмаўлялі іх мастацкую каштоўнасць.

Цягу Р. Шырмы да народнай паэзіі заўважыў настаўнік літаратуры Манцэвіч. Ён і параіў яму запісваць песні. Спачатку гэта былі запісы ад Ганны Дудзейкі, у якой кватараваў юнак, ад сваіх шматлікіх родзічаў, запісы з ваколіц Белавежы, а пазней адусюль, дзе даводзілася бываць.

У час навучання на двухгадовых Свянцянскіх настаўніцкіх курсах у 1911-1912 гадах Шырма праходзіць сальфеджыё, вучыцца іграць на скрыпцы, арганізуе настаўніцкі хор. Адначасова ён спрабуе запісваць мелодыі. Больш плённа гэтая работа прадоўжылася ў Седлецкім настаўніцкім інстытуце. Не забываў ён аб роднай песні і тады, калі разам з інстытутам у пачатку першай сусветнай вайны апынуўся ў Яраслаўлі. На фотаздымку тых часоў мы бачым Шырму сябрам этнаграфічнай камісіі Рускага геаграфічнага таварыства. Грошы ад канцэртаў перадаваліся дзецям бежанцаў-беларусаў. Праўда, яго глыбока абразіла тое, што для гэтых канцэртаў ён не змог знайсці ніводнай апрацоўкі беларускай народнай песні. Можа з тых пор ён і пакляўся запоўніць гэту пустку ў нацыянальнай культуры і, як пабачым ніжэй, зрабіў гэта.

Адразу пасля рэвалюцыі па накіраванню беларускага нацыянальнага камісарыята Р. Шырма едзе арганізоўваць школу ў вёсцы Навагольскай Новахапёрскага павету Варонежскай губерні. Тут шматбакова раскрыўся талент Шырмы-педагога. “Святлом свайго юнацтва” назваў яго навагольскі вучань, цяпер рускі пісьменнік, аўтар аповесці “Белы Бім Чорнае Вуха” Гаўрыла Траяпольскі. Аднойчы ён сказаў: “Наўрад ці стаў бы я пісьменнікам, калі б не сустрэў у жыцці Рыгора Раманавіча”. На другім годзе існавання школы Шырму прызвалі ў Чырвоную Армію. Але калектыў вучняў напісаў ліст Н. К. Крупскай, і неўзабаве школьнікі зноў былі разам са сваім любімым настаўнікам.

Самымі цяжкімі ў жыцці Шырмы былі 1922-1925 гады, калі ён вярнуўся на радзіму ў Заходнюю Беларусь. “Ніякіх беларусаў няма, – гаварылі там польскія шавіністы, – гэта выдумка мінскіх бальшавікоў.” Калі Шырма адмовіўся запісацца палякам, яму забаранілі займацца настаўніцкай працай. І ў такіх умовах ён кліча на падмогу “самую моцную зброю – родную песню”. Ён арганізуе ў Пружанах хор, запісвае народныя песні і заахвочвае да гэтай працы здольных людзей, наладжвае канцэрты, пераносіць на заходнебеларускую глебу “Беларускія вечоркі” І. Буйніцкага пачатку стагоддзя. Каб паліцыя не магла іх забараніць, яны праводзіліся пад выглядам “Вечароў славянскай песні”, а ў праграму ўключаліся і польскія народныя песні. Хутка выступленні хора і імя яго кіраўніка становяцца вядомымі ў Заходняй Беларусі.

Паваротным для Шырмы стаў канцэрт у Пружанах, на якім прысутнічаў правадыр стотысячнай Грамады Браніслаў Тарашкевіч. Пазнаёміўшыся з фальклёрнымі запісамі збіральніка, сам вядомы філолаг, Б. Тарашкевіч убачыў у Шырме чалавека, здольнага ўзначаліць культурна-асветную працу, якая ва ўмовах Заходняй Беларусі набыла характар нацыянальна-вызваленчай барацьбы.

**Васіль Ліцьвінка**

# “Дзядзька Рыгор”

У 1925 годзе Шырма пераязджае ў Вільню, працуе ў сакратарыяце Грамады, выхавацелем у інтэрнаце для хлопчыкаў Віленскай беларускай гімназіі, выкладае тут спевы і арганізуе хор. Будучы паплечнік і найбольш паслядоўны вучань Шырмы, будучы арганізатар Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору Беларусі, які носіць цяпер яго імя, Г. І. Цітовіч напіша: "1926 год... Мая першая віленская восень. Бязмэтна блукаю па квадрацце сціснутага манастырскімі сценамі двара (Базыльянскага манастыра – В.Л.). І раптам з напаўадчыненага акна палілася беларуская народная песня, за ёю другая, трэцяя. Чымсьці родным, блізкім дыхнула на мяне. "Сасна!" Ды гэтую ж песню і ў нас спяваюць... Але тут прыгажэй! "Перапёлачку" я ўжо слухаю ў зале, схаваўшыся ў далёкім куточку, таму што перад хорам строгі рэгент... Закончылася гэтая генеральная рэпетыцыя, і куды дзелася сур'ёзнасць кіраўніка. Ён стаіць цяпер з дабрадушнай усмешкай у акружэнні моладзі, а тую дзяўчыну, што заспявала "Зязюльку", па-бацькоўску нават па галоўцы пагладзіў. Ад выходзячых я даведаўся, што гэты рэгент – Шырма, беларускі пясняр. Сказалі гэта, ды яшчэ да мяне насмешліва: маўляў, хто ты такі, што Шырмы не знаеш!"

Хутка хор гімназіі стаў наладжваць цікавыя "Вечары славянскай песні" ў Вільні. Значна абагацілася беларуская частка праграмы, калі ў калектыў прыйшоў таленавіты вучань М. Рымскага-Корсакава і А. Глазунова кампазітар і акампаніятар, ураджэнец Магілёўшчыны Канстанцін Галкоўскі. "Вечары..." сталі глебай інтэрнацыянальнага аб'яднання нацыянальных меншасцяў і прагрэсіўнай польскай інтэлігенцыі, сродкам барацьбы з палітыкай паланізацыі заходнебеларускіх земляў. Імі, шматлікімі публіцыстычнымі выступленнямі ў друку патрыёт паказваў прыклад паважных адносін да другіх народаў.

Каб захаваць Шырму для культурна-асветнай легальнай працы (па Рыжскаму дагавору Польшча абавязалася захаваць культурную аўтаномію нацыяльных меншасцяў) Б. Тарашкевіч рэкамендаваў яму не ўступаць афіцыйна ў Грамаду. З 1927 года Шырма ўзначаліў і быў найбольш прагрэсіўным кіраўніком забароненай у 1936 годзе народна-дэмакратычнай арганізацыі Таварыства Беларускай Школы – галоўнай апоры Грамады ў масах. За гэты час сакратар Галоўнай управы ТБШ Р. Шырма аб'ехаў заходнюю частку Беларусі, ён усюды наладжваў гурткі ТБШ і хоры, школы з беларускай мовай навучання, дапамагаў паставіць спектаклі.

Усюды, дзе б ні бываў Шырма, ён не забываў запісваць народныя песні, для чаго нястомна адшукваў таленавітых спевакоў. Частку песень ён перакладаў на блізкі да чалавечага голасу інструмент – скрыпку, якой добра валодаў. Шырма не спыняўся толькі на запісе народных песень, а шукаў кампазітараў, якія б апрацавалі іх. Не маючы магчымасці звярнуцца да музыкантаў Усходняй Беларусі, ён знайшоў выдатных майстроў – рускага кампазітара А. Грачанінава ў Парыжы і украінскіх А. Кошыца і М. Гайваронскага ў Нью-Ёрку. Атрыманыя ад іх і К. Галкоўскага апрацоўкі адразу правяраліся ў хоры гімназіі ў другой палавіне 20-х і Беларускага саюза студэнтаў у 30-я гады. Апошні, калі з ім стаў выступаць выдатны саліст-інтэрпрэтатар народных песень Міхась Забэйда-Суміцкі, стаў выдатнай мастацкай з'явай у Заходняй Беларусі. Вытрымаўшыя праверку практыкай лепшыя апрацоўкі народных песень склалі зборнікі "Беларускія народныя песні" (1929) і "Наша песня" (1938).

У заходнебеларускі перыяд Р. Шырма ўдзельнічаў у дзесятках з'ездаў ТБШ, пастаянна змагаўся за стварэнне роднай школы для беларускіх дзяцей, прачытаў сотні лекцый аб беларускай культуры, выступіў са шматлікімі канцэртамі, ён быў выдаўцом папулярных у Заходняй Беларусі часопісаў "Летапіс ТБШ" і "Беларускі летапіс", паэта Міхася Васілька, прапагандаваў творчасць сваіх вучняў гімназіі Алеся Салагуба і Валянціна Таўлая, захаваў творчую спадчыну таленавітага паэта-самавучкі Сяргея Крыўца. Рыгор Раманавіч першым разглядзеў магутны талент удзельніка нацыянальна-вызвольнага руху Максіма Танка, адклаўшы выданне сваіх фальклёрных запісаў і на ахвяраваныя грошы выдаў першы "пабіты шматкроп'ямі" і адразу ж канфіскаваны зборнік паэта "На этапах" са сваёй бліскучай празарлівай прадмовай.

Вялікая папулярнасць Р. Шырмы непакоіла польскую санацыю. Спачатку яна дабілася звальнення яго з гімназіі "за наладжванне беларускіх ячэек", тройчы арганізоўвала судовыя працэсы ў першай палове 30-х гадоў, спрабавала спакусіць "цёплым месцам" за згоду выйсці з кіраўніцтва ТБШ. Аднойчы віленскі ваявода Бацянскі нават прапанаваў Шырму прадаць фальклёрныя запісы, каб перакласці іх і выдаць, як польскія, на што збіральнік гнеўна адказаў: "Каб перакласці народныя песні, трэба геній Адама Міцкевіча, а так як у вас яго няма, то гэта будзе тое самае, што абліць гэты белы абрус атрамантам!" У адказ на абвінавачванні "ў беларусізацыі ТБШ" Шырма смела заявіў на судовым працэсе 1933 года: "За вашымі пышнымі судзейскімі тогамі я бачу свае паляшуцкія світкі, дзеля асветы якіх мы працуем, і з гэтага кірунку нас не саб'е ніхто і ніколі". Ад бяссілля паліцыя пайшла нават на правакацыю: выпусціла фальшыўку, што Шырма з'яўляецца агентам дэфензівы. Але прагрэсіўная беларуская грамадскасць не паддалася на яе. Пачаліся судовыя акцыі, праследаванні, якія цягнуліся да 1939 года.

З гэтага часу новыя творчыя гарызонты адкрыліся перад вядомым майстрам харавога спеву. 1 лістапада 1939 года ён атрымаў мандат на стварэнне прафесійнага калектыву. Шырма збірае вакол сябе таленавітых спевакоў, у тым ліку і многіх былых удзельнікаў віленскіх хораў, і пачынае мэтанакіраваную працу з імі ў Беластоку. У канцы 1940 года Беларускі ансамбль песні і танца пад кіраўніцтвам Шырмы з вялікім поспехам выступае ў Менску, а ў траўні 1941 года – на Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве. Слухачы ўпершыню пачулі цудоўныя беларускія народныя песні "А ў полі вярба", "Ці не быстрая рэчка", "Ой, у садочку цвіла лілея", "Там, за садамі", "Ой выйшла маці" і інш.

"Чароўнасць беларускай народнай песні даносіць да слухачоў Ансамбль песні і танца пад кіраўніцтвам Р. Р. Шырмы, які на днях прыехаў у Маскву, – пісала "Праўда" 6 чэрвеня 1941 года. – Арганізацыя ансамбля з'явілася пачаткам велізарнай працы па збіранню беларускага фальклёру... Цяпер ансамбль выехаў у гастрольную паездку па гарадах Савецкага Саюза. Яго чакае немалы шлях – ад Урала і Калініна да Ташкента".

Вайна застала калектыў у Арле. У цяжкі для нашага народа час артысты выступілі з тысячамі канцэртаў. Шырму запомніліся словы палітрука перад адным канцэртам на перадавой: "Страляць нас не вучыце – самі ўмеем, а вы дайце нам душу народную, заспявайце беларускія, рускія, украінскія песні". З незвычайным уздымам гучалі гэтыя песні побач з гарачымі руінамі Менска на беразе Свіслачы ў дзень партызанскага параду, прысвечанага вызваленню горада.

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што за спевы беларускіх народных песень (!!!) выдатнаму маэстру летам 1942 года прыйшлося вынесці жудасныя, па яго ўласнаму сведчанню, катаванні на Лубянцы ў Маскве. Патрабавалі, каб падпісаў паперу з прызнаннем, што ён нацыяналіст. "Я падпішу тое, што я люблю родныя песні, а ўжо ваша справа як гэта ацэньваць", – годна адказваў патрыёт свайго народа. Ад вернай смерці выратавала ўмяшанне афіцыйных беларускіх улад.

Пасля вайны перайменаваны ў Дзяржаўны хор Беларусі калектыў плённа працуе ў Горадні. Тут у 1951 годзе кіраўніку прыйшлося ў чарговы раз абараняць сваю мастацкую пазіцыю. З вульгарна-сацыялагічных меркаванняў у артыкулах "Аб рэпертуары Беларускага дзяржаўнага хору" ("Советская Белоруссия", 19 жніўня 1951 года) і "Канцэрты Дзяржаўнага хору" ("Літаратура і мастацтва", 11 красавіка 1952 года) архаікай называліся такія выдатныя ўзоры песеннай класікі, як "У полі вярба, нахілёная", "Камары гудуць", "Ой, загуду, загуду". Мала дасведчаныя ў мастацтве людзі ўбачылі ў іх "ідэалагічнае скрыўленне і безнадзейную безыдэйнасць". У артыкуле-водпаведзі "Песня служыць народу" і "Запісцы ў ЦК КПБ" з уласцівай Шырму-публіцысту палымянасцю ён адстаяў сваю арыентацыю на народную песню, як аснову працы хору (ад чаго поўнасцю адыйшла цяперашняя капэла).

У 1952 годзе Дзяржаўны хор пераязджае ў Менск, а ў 1955 бліскуча выступае на Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве, пасля якой кіраўніку было прысвоена званне "Народны арыст СССР", а калектыў прызнаны адным з лепшых прафесійных хораў краіны. У 1957 годзе яму надаецца званне Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы Беларусі. Пасля Дэкады кіраўнік стварае з калектывам высокамастацкія праграмы, дзе лепшыя песні беларусаў выдатна гучалі побач з "Вечарам" С. Танеева, "Татарскім палонам" М. Рымскага-Корсакава, "Паэтычнай араторыяй" Г. Свірыдава, "Па слядах Руставелі" А. Тактакішвілі. За стварэнне іх ў 1962 годзе Шырме была прысуджана Дзяржаўная прэмія Беларусі. Да 1970 года Рыгор Раманавіч кіраваў калектывам, які называлі капэлай Шырмы. Майстрам унутранай тэхнікі лічылі яго за сціплую дырыжорскую манеру, калі "не толькі рукі, але і ўся істота дырыжора гаварыла, звала, маліла, і гэтыя зовы і просьбы і былі той галоўнай тэхнікай, якая вырашала лёс артыстычнага поспеху. Такім майстрам быў А. Свешнікаў, да таго роду майстроў належаў Шырма" (В. Балашоў).

Як і раней, многа клапаціўся Рыгор Раманавіч аб стварэнні і выданні высокамастацкіх апрацовак беларускіх народных песень. Добры іх знаўца, ён ведаў, якому кампазітару можна даверыць тую або іншую песню, каб не абламаць яе жывых парасткаў. Апрацоўкі, якія прайшлі мастацкую апрабацыю ў капэле, ён надрукаваў у зборніках "Выбраныя песні з рэпертуару Дзяржаўнага хору БССР" (1958) і "Спявае Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла БССР" (1966). Завяршылася ўся гэтая велізарная праца выданнем у 1972 і 1974 гадах двух фундаментальных тамоў "Беларускія народныя песні ў апрацоўках для хору", куды ўвайшло 217 разнастайных работ, да стварэння якіх Шырма прыцягнуў 44 кампазітары Беларусі, Расіі, Украіны, Польшы, Літвы, Эстоніі, Латвіі. Лепшымі сярод іх Шырма называў апрацоўкі А. Грачанінава, А. Багатырова і А. Пашчанкі. Выхад двухтомніка адкрыў магчымасці для шырока культурнага ўзаемаабмену з другімі народамі СССР. Заканамерным было прысуджэнне Шырму за яго стварэнне Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

Новыя творчыя магчымасці (узятае ў народа вярнуць яму) адкрыліся перад Р. Шырмам – збіральнікам песеннага фальклёру. Тысячы яго запісаў становяцца каштоўнейшымі зборнікамі. Шырма выдатна занатаваў багацейшую ў славянскім свеце, пра што сведчыў яшчэ Адам Міцкевіч, песеннасць беларусаў, зберог яе ад забыцця і перадаў у мастацкую практыку.

Першым ягоным песенным зборнікам сталі "Беларускія народныя песні, загадкі і прыказкі" 1947 года. Але і гэты зборнік і наступны – "Беларускія песні" 1955 года з-за адсутнасці паліграфічнай базы былі выдадзены без нот. Толькі пасля вострага крытычнага выступлення Шырмы на III-м з'ездзе пісьменнікаў Беларусі ў 1954 годзе і серыі артыкулаў аб няправільных адносінах да выданняў фальклёру становішча змянілася. Новай з'явай сталі выдадзеныя ў 1958 годзе ў Маскве з мелодыямі "Дзвесце беларускіх народных песень" Р. Шырмы, дзе аўтар прадставіў усесаюзнай навуковай і творчай грамадскасці паэтычнае і меладычнае багацце народнай песні.

Па справядлівай ацэнцы Н. Гілевіча, лепшым выданнем беларускіх народных песень з нотамі за ўсю гісторыю беларускай фальклярыстыкі стаў чатырохтомнік Шырмы "Беларускія народныя песні", асобныя тамы якога адпаведна выходзілі ў 1959, 1960, 1962 і 1976 гадах. Гэта быў вынік амаль 70-гадовай збіральніцкай і творчай дзейнасці Шырмы.

З 1966 года і да канца жыцця Шырма кіраваў кампазітарскай арганізацыяй Беларусі. Яго вельмі непакоіла, што людзі ў наш час менш спяваюць. Ён лічыў правільнай думку, што народ, які перастаў спяваць, перастае і жыць паўнакроўным жыццём. Прадметам яго асаблівай увагі былі спевы ў школе, аб чым сведчыць і выдадзены ў 1957 годзе "Школьны спеўнік", і шматлікія выступленні і артыкулы пад дэвізам: "Заспявае школа – заспявае народ". Самадзейнае мастацтва рэспублікі ён скіроўваў не на падробку пад вядомыя ўзоры, а на свае рэгіянальныя, мясцовыя традыцыі, на самабытнасць.

Творчае крэда Шырмы ў поўны голас прагучала ў кнізе 1976 года "Песня – душа народа": "Ёсць у музыцы бясспрэчная ісціна, якую нельга перадаць словамі, але яе выразна і моцна адчувае душа. Яе можна назваць музычнай праўдай. Гэта праўда жыве і дзейнічае ў народнай песні. Лада-танальная і паэтычная сістэма, на якую робяць наскокі авангардысты ўсякіх масцей, – аснова гэтай праўды... Вышэй і прыгажэй за народную песню нічога не можа быць! Няма кампазітара больш геніяльнага за народ!"

Шчырым клопатам Шырмы сагрэта цэлае пакаленне дзеячоў беларускага мастацтва. Ён лічыў, што яго шэрагі трэба папаўняць такімі людзьмі, якія з малаком маці ўвабралі любоў да свайго краю, народа, яго мастацтва, мовы. Многія і многія паэты, кампазітары, фалькларысты, музыканты атрымалі пуцёўку ў жыццё, дзякуючы яго бацькоўскаму дабраславенню.

Многа зрабіў Рыгор Раманавіч, каб беларуская паэзія загучала ў музыцы. "Часта бывае неабходна падказаць кампазітару, напомніць добры тэкст, на які можа быць напісаны цікавы твор. Вось я і вырашыў, як кажуць, узяць ініцыятыву ў свае рукі". Па шматлікіх ўспамінах у партфелі яго заўсёды былі з сабою лепшыя творы беларускіх паэтаў, якія ён часта раздаваў і рассылаў кампазітарам.

Плённа працаваў Шырма, як нязменны старшыня Беларускага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за мяжою, для якіх яго імя, як і запісаная ім славутая "Зорка Венера", былі сімвалам Радзімы. Ён асабліва клапаціўся, каб беларусы на чужыне берaглі сваю культурную спадчыну, перадавалі яе дзецям. За ўмацаванне культурных сувязяў паміж славянскімі народамі ўрад Балгарыі ўзнагародзіў Шырму ордэнам Кірылы і Мефодзія, а ў Польшчы яму надалі ганаровае званне "Заслужаны дзеяч польскай культуры".

Афіцыйныя ўлады высока ацанілі шматгранную дзейнасць Р. Р. Шырмы. Ён уганараваны званнем Героя Сацыялістычнай Працы, узнагароджаны ордэнамі Леніна, Кастрычніцкай Рэвалюцыі, Працоўнага Чырвонага Сцяга, "Знак Пашаны". Яго імя носіць Дзяржаўная акадэмічная капэла Беларусі і Пружанская музычная школа. У сярэдняй школе №150 Менска створана прысвечаная яму экспазіцыя, а ў Пружанах працуе музей Р. Р. Шырмы. Знешняя і ўнутраная абаяльнасць гэтага прыгожага чалавека натхніла многіх паэтаў, кампазітараў, скульптараў на стварэнне твораў аб ім.

Вялікі беларус, які нарадзіўся і пачаў сваю творчую дзейнасць на белавежскай зямлі, даў для нашых часоў прыклад вернага служэння беларускаму народу, яго ідэалам і творчасці.





# Што за дзень святкуюць у Рэспубліцы Беларусь 23 лютага?

Дзень 23 лютага афіцыйна з'яўляецца святам вайскоўцаў – Днём Узброеных Сілаў Рэспублікі Беларусь. Неафіцыйна лічыцца ўвогуле днём мужчынаў. Мала хто (ці амаль ніхто) ведае, ад якога часу пачала адзначацца гэтая дата. Хаця большасць дарослага насельніцтва нашай краіны ведае, што гэта свята Савецкай Арміі, а раней – Чырвонай Арміі. Якое ж яно мае дачыненне да Беларусі?

Ва ўсіх даведніках 70-х гадоў мінулага стагоддзя (Савецкай Гістарычнай Энцыклапедыі, Савецкай Ваеннай Энцыклапедыі, Вялікай Савецкай Энцыклапедыі) пра гэтую дату гаворыцца даволі асцярожна і ў той жа час канкрэтна. Паўсюды адныя ж і тыя словы: "У азнаменаванне ўсеагульнай мабілізацыі рэвалюцыйных сіл, масавага ўздыму народа на абарону сацыялістычнай Айчыны, а таксама мужнага супраціўлення першых атрадаў Чырвонай Арміі германскім захопнікам 23 лютага штогод адзначаецца як усенароднае свята Дзень Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога флоту".

Вядома, што дзень Чырвонай Арміі 23 лютага пачаў адзначацца ў 1919 годзе. Спачатку яго святкаванне было прызначана ў першую гадавіну дэкрэту Саўнаркому ад 15 (28) студзеня 1918 г. аб стварэнні на дабраахвотніцкай аснове Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі ў савецкай Расіі. Аднак святкаванне па нейкіх бюракратычных прычынах аднеслі на люты 1919 г. Ад таго часу і сталі адзначаць дзень Чырвонай арміі 23 лютага. Пра гэта напісаў у сваім артыкуле "15 год Чырвонай Арміі" ("Правда", 5 сакавіка 1933 г.) народны камісар па ваенных і марскіх справах СССР К.Я. Варашылаў: "Дарэчы гаворачы, прыстасаванне святкавання гадавіны РСЧА да 23 лютага носіць даволі выпадковы і цяжка вытлумачальны характар і не супадае з гістарычнымі датамі".

Трэба таксама заўважыць, што адразу пасля дэкрэту ад 28 студзеня 1918 г. Чырвоная армія арганізаваная не была. Знаходзілася мала ахвотнікаў запісвацца ў яе шэрагі, пра што сведчаць тэлеграмы з губерняў у Петраград. А старая армія развальвалася. З яе ўцякла дамоў пераважна большасць жаўнераў. Фактычна савецкі ўрад Ул. Леніна ў сваім распараджэнні меў асобныя атрады матросаў, чырвонагвардзейцаў-рабочых і рэшткі старой арміі.

Больш канкрэтна дата нараджэння Чырвонай Арміі была ўстаноўлена праз пяць гадоў, у 1938 г., у "Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)" (с. 207), які асабіста рэдагаваў І. Сталін. У гэтай кнізе, якую мусілі вывучаць на палітзанятках мільёны савецкіх людзей, ужо сцвярджалася, што дзень адпору савецкіх войскаў нямецкім войскам пад Нарвай і Псковам стаўся днём нараджэння маладой Чырвонай Арміі. Так у кнізе, адрэдагаванай асабіста Сталіным, упершыню з'явіўся сталінскі міф аб адпоры нямецкім захопнікам. Потым савецкія гісторыкі пачалі пісаць ужо аб перамозе Чырвонай Арміі пад Нарвай і Псковам 23 лютага 1918 г., а потым ужо і пра разгром нямецкіх войскаў у гэты дзень. Ужо пасля другой сусветнай вайны хтосьці з прыдворных мастакоў атрымаў Сталінскую прэмію (з 1956 г. перайменаваную ў Дзяржаўную прэмію) за карціну пра гэты самы разгром. Такім чынам, была канчаткова замацавана дзяржаўнае вайсковае свята сталінскага гатунку.

У Вялікай Савецкай Энцыклапедыі (2-е выд.) у томе 35-м, с.257-258, (1955 г) быў змешчаны артыкул "Пскоўска-нарваўскія баі", дзе адзначалася, што гэта "першыя баі маладых часцей Чырвонай Арміі, што фарміраваліся, сумесна з атрадамі Чырвонай гвардыі, рэвалюцыйных матросаў і салдатаў былой царскай арміі 18 лютага – 4 сакавіка 1918 г. у раёне Пскова і Нарвы супраць войскаў кайзераўскай Нямеччыны". Спасылкі ў гэтым артыкуле на артыкулы Ул. Леніна ў прэсе 1918 г. і на два сціплых зборнікі дакументаў і матэрыялаў. Савецкія гісторыкі нават у 80-х гадах распісвалі неіснуючыя дзеянні, зразумела з перамогай Чырвонай Арміі. Праўда, у Савецкай Ваеннай Энцыклапедыі (том 5, 1978, с.493) у артыкуле "Нарва" гаворыцца: "У лютым 1918 атрады Чырвонай Арміі пад Нарвай уступілі ў бой з кайзераўскімі войскамі", а ў томе 6 (1978, с.621) у артыкуле "Пскоў": "У лютым 1918 у пачатку Грамадзянскай вайны пад Псковам і Нарвай атрады маладой Чырвонай Арміі ўступілі ў бой з германскімі інтэрвентамі". Нават у сучасных падручніках па гісторыі Расіі захавалася фраза: "Чырвоная Армія спыніла немцаў пад Псковам". Такім чынам, паўтараецца версія з "Кароткага курсу гісторыі ВКП(б)" 1938 году.

А ці былі баі пад Нарвай і Псковам у лютым 1918 г.? Савецкі вайсковы гісторык М. Я. Какурын (1883-1936), былы палкоўнік царскай арміі, а потым камандуючы 3-й чырвонай арміяй на Заходнім фронце і выкладчык Ваеннай акадэміі РСУА пазней рэпрасаваны, у сваёй капітальнай працы "як змагалася рэвалюцыя" (т.1, 1925, перавыдадзенай у 1990 г., с. 176) адзначае: "...немцы 18 лютага 1918 г. перапынілі мірныя перамовы і перайшлі ў наступ на ўсім фронце ад Балтыйскага да Чорнага мора.

Наступаючы на тэрыторыю Вялікаросіі і Беларусі, немцы, нідзе не сустракаючы супраціўлення старой арміі, якая ўжо зусім разлажылася, лёгка дасягнулі лініі Нарва-Пскоў-Полацк-Орша-Магілёў.

Наступ германцаў прымусіў Савецкі ўрад падпісаць мір, і 3 сакавіка 1918 г. ён быў урэшце падпісаны".

У 1951 г. аўтар раманаў "Порт-Артур" і "Сям'я Званаровых", лаўрэат Сталінскай прэміі А.М. Сцяпанаў, працуючы над аповесцю пра далейшы лёс сваіх персанажаў, зацікавіўся абставінамі першых баёў Чырвонай арміі і ўстанавіў той бяспрэчны факт, што 23 лютага 1918 г. баёў пад Нарвай і Псковам не было. Як сведчыць генерал-маёр, прафесар С. Ф. Найда ("Военно-исторический журнал", 1964, №5) у сваім артыкуле "Чаму дзень Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту святкуецца 23 лютага?", пісьменнік А. Сцяпанаў звярнуўся з лістом да Сталіна па гэтым пытанні. Сталін пераслаў ліст у сакратарыят Галоўнай рэдакцыі "Гісторыі грамадзянскай вайны ў СССР", які ўзначальваў С. Ф. Найда. Правяраўшы архіўныя дакументы і газеты за люты-сакавік 1918 года, С. Ф. Найда і яго супрацоўнікі пацвердзілі выснову А. Сцяпанава: сапраўды, пад Псковам і Нарвай ніякіх баёў не было.

Звернемся да яшчэ аднаго сведкі. Гэта генерал-лейтэнант спачатку царскай, а потым генерал-лейтэнант Савецкай Арміі Міхаіл Дзмітравіч Бонч-Бруевіч (1870-1956) ("бальшавіцкі генерал", як яго ахарактарызаваў у сваіх мемуарах А. І. Дзянікін). Гэта старэйшы брат Уладзіміра Дзмітравіча Бонч-Бруевіча (1871-1955) кіраўніка спраў Саўнаркаму РСФСР у 1917-1920 гг. Былы галоўнакамандуючы Паўночным фронтам, генерал-лейтэнант М. Д. Бонч-Бруевіч у лістападзе 1917 г. быў прызначаны начальнікам штаба вярхоўнага галоўнакамандуючага прапаршчыка М.В. Крыленкі. Па загаду Леніна ён да 19 лютага 1918 г. канчаткова расфармаваў стаўку вярхоўнага галоўнакамандуючага ў Магілёве і ў той жа дзень быў выкліканы Леніным у Петраград. Толькі вечарам 22 лютага 1918 г., прыехаўшы цягніком ад Магілёва да Петраграда дзве ночы і дзень, ён дабраўся да Смольнага на нараду да Леніна. Як успамінае М. Д. Бонч-Бруевіч ("Вся власть Советам", М., Воениздат, 1964), Ленін заявіў некальkім былым царскім генералам, што ў савецкага ўрада няма ніякіх войскаў для абароны Петраграда і што трэба іх фармаваць. Бонч-Бруевіч і яго супрацоўнікі ўжо 23 лютага стварылі разведгрупы, якія былі накіраваныя насустрач нямецкім войскам, якія наступалі на Нарву і Пскоў і далей маглі пайсці на Петраград. Як піша М. Д. Бонч-Бруевіч, немцы занялі без бою Нарву, але далей не пайшлі. У Петраградзе пра гэта даведаліся пазней, бо ніякага фронту не было. Урад Леніна ўстрывожаны наступам немцаў, прапанаваў Бонч-Бруевічу накіраваць у раён Нарвы атрад матросаў пад камандаваннем П. Я. Дыбенкі, народнага камісара па марскіх справах у савецкім урадзе, з камісарам атрада А.Р.Жалязняковым (тым самым, што быў начальнікам варты Таўрычаскага палаца сказаў дэпутатам пры разгоне Устаноўчага сходу Расіі "Варта стамілася, пакіньце памяшканне!"). А ў гэты час нямецкае камандаванне дало загад сваім войскам далей за Нарву не наступаць. Атрад Дыбенкі, як сведчыць М.Д. Бонч-Бруевіч, адступіў, як толькі матросы падышлі да Нарвы і ўбачылі ў полі нямецкі кавалерыйскі раз'езд з дзесятка коннікаў: "Замест барацьбы з немцамі разбэшчаныя матросы заняліся бочкай са спіртам, якую здабылі па дарозе". Камандзіра і камісара атрада ваенна-рэвалюцыйныя трыбунал прыгаварыў да расстрэлу, аднак замянілі ім пакаранне адпраўкай на фронт камандзірамі. Атрад матросаў быў расфармаваны. Такой была сапраўдная "перамога" пад Нарвай.

У Пскове, паводле звестак, змешчаных у "Праўдзе" 22 лютага 1918 г. прайшоў мітынг пскоўскага гарнізона "з вялікім пад'ёмам". Была прынята рэзалюцыя: даць рашучы адпор нямецкім захопнікам. Аднак вечарам 24 лютага 1918 г. "Пскоў быў заняты невялікімі сіламі немцаў, горад удалося б адстаяць, калі б было аказана супраціўленне. На жаль, салдаты ў першы момант паддаліся паніцы і не прынялі ніякіх крокаў да адпору". Так паведамляла тагачасная савецкая прэса. Салдаты палка, што стаяў у Пскове, разбегліся, і полк спыніў сваё існаванне. Такой была другая "перамога".

Такім чынам, свята Чырвонай (потым Савецкай) Арміі, а цяпер Узброеных сілаў Расіі мае міфічныя падставы прыдуманых перамог, у 30-80-я гады XX ст. распрапагандаваных камуністычнай прапагандай.

Што тычыцца Беларусі, то дата 23 лютага 1918 г. не мае аніякага дачынення да беларускай вайсковай гісторыі. У лютым 1918 г. "Расійская рэвалюцыйная армія" (афіцыйная назва старой арміі) у Беларусі таксама ў паніцы кінулася наўцекі перад наступаючымі нямецкімі войскамі, рабуючы па дарозе маёнткі, што яшчэ захаваліся, як сведчыць у сваіх мемуарах фундатар Чырвонага касцёла ў Менску Э. Вайніловіч.

21 лютага 1918 г. у 3 гадзіны дня першы нямецкі эшалон прыбыў у Менск, 25 лютага немцы занялі Барысаў. Гэтым падзеям папярэднічалі ўцёкі з Менска ў Смаленск бальшавіцкага кіраўніцтва Заходняй вобласці і Заходняга фронту на чале з А. Мясніковым. Як сведчыць газета "Известия" ад 26 (13) лютага 1918 г. (№34), якая прыняла звесткі з Менска ад 19 лютага з абласнога Савета народных камісараў (са спазненнем), "на экстраным паседжанні Савета Народных Камісараў было пастаноўлена эвакуяваць абласны Савет", і "ў 4 гадзіны дня Савета ўжо не было". Ніякіх баёў з нямецкімі войскамі ў Беларусі таксама не адбывалася. Хто мог, уцякаў ад немцаў. Такім чынам, дата 23 лютага 1918 г. да Узброеных Сілаў Рэспублікі Беларусь ніякага дачынення ўвогуле не мае. Аднак афіцыйнае святкаванне дня 23 лютага ў Рэспубліцы Беларусь мае іншыя гістарычныя падставы. 23 лютага 1944 г. паводле загаду генеральнага камісара Беларусі Курта фон Готберга пачала стварацца Беларуская Краёвая Абарона – вайсковае фармаванне для барацьбы супраць бальшавізму. Так што гэтая дата больш адпавядае Узброеным Сілам Рэспублікі Беларусь, чым дзень Чырвонай арміі Расійскай Савецкай Федэратыўнай Рэспублікі.

Падчас уздыму беларускага адраджэнскага руху ў канцы 80-х – пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя была прынята сапраўдная дата слаўнай беларускай вайсковай гісторыі – Дзень Беларускай Вайсковай Славы – 8 верасня, гадавіна Аршанскай бітвы 1514 года, калі 30-тысячнае беларускае войска цалкам разграміла 80-тысячную армію Маскоўскага вялікага княства. Дата 8 верасня і адзначаецца беларускімі патрыётамі як беларускае нацыянальнае вайсковае свята.

*Анатоль Грыцкевіч, доктар гістарычных навук, прафесар.*

**Фелікс Шкірманкоў**

## Раскатаў губу Іван...

Раскатаў губу Іван:
-Буду жыць цяпер, як пан.
Піць і есці за дваіх,
Хопіць "зайчыкаў" маіх!
Рад Іван, і жонка рада,
Падарунак ад Урада:
Удвая зарплату далі!
А назаўтра... адабралі.
Цэны выраслі ўтрая,
І прыбаўку, што ўдвая,
Мыццю з'елі ў Івана,
Не адбыўшагася пана
І маўчыць Іван цяпер,
З'елі цэны ўвесь давер
Да Урада і да тых,
Хто паддаў яму пад дых...

## Пеўнік на пасадзе

На птушніку
з адной нагоды
Сабралі сходку і калі
Дайшлі пасля кудахтання
Да згоды,
Што трэба выбары рабіць,
І пачалі
Хахлаткі сталыя
І маладыя куры
Расхвальваць кожная
Свае кандыдатуры,
А трэ было
абраць гаспадара,
Каб певень быў
руплівы да двара,
Каб добра
за парадкам даглядаў
І галасіста,
лепш за ўсіх спяваў,
Спыніліся на маладым,
Пры шпорах.
І крылы моцныя,
І дзюба хоць куды!
І да таго ж яшчэ – руды!
І пеўнік заспяваў.
Увесь ён у рабоце:
Крыламі б'е,
І на высокай ноце,
Ускочыўшы другіх вышэй,
Ён навучаць пачаў курэй,
Як трэба яйкі несці,
Куды хадзіць, што есці.
Прыйшла пара,
На яйкі селі квочы.
Праходзяць дні,
Праходзяць ночы.
Пара з'явіцца і пісклятам
Убачыць свет,
сустрэцца з татам.
Але пустыя былі яйкі,
Бо пеўнік кукарэкаў байкі.
А тое, што патрэбна,
не рабіў.
Да спраў сапраўдных
ён не здольны быў.

х х х

А што, такога не бывае
у людзей,
Калі пасаду
нехта атрымае,
А што і як рабіць – не знае?

*г. Слаўгарад.*





Мікола Валошчык, кіраўнік суполкі ТБМ г. Белаазёрска

# Што беларусы страчваюць, калі не размаўляюць па-беларуску?

***Бараніце матчыну мову, бо без яе Вы – не Вы.***
Карлас Шэрман.

***Мова пераможцы ў вуснах пераможанага заўсёды ёсць моваю раба.***
Тацыт.

**Прысвячаю беларускай моладзі, якая змагаецца за незалежнасць Беларусі.**

## I

**1.** Аднойчы слухаючы прапаведніка евангелістаў-бабцістаў у Доме малітвы, я звярнуў увагу на слова "кроткий" і запытаў, што дакладна яно азначае. Адказ быў цьмяны, бо прапаведнік быў беларусам і не ведаў дакладнага значэння расейскага не ўжыванага ў мясцовых гаворках слова "кроткий". Даў такі прыклад: "Кроткий человек – это такой, что и мухи не обидит". Такое тлумачэнне мяне не задаволіла. Прыйшоўшы дадому, я адкрыў расейска-беларускі слоўнік і знайшоў, што слова ***"кроткий"*** азначае – *лагодны, ціхі, рахманы (смиренный), пакорлівы*. Сінонімам слова ***"кроткий"*** з'яўляецца слова ***"смиренный"***, якое мае адпаведнае значэнне ў беларускай мове – *пакорны, пакорлівы, ціхі, ціхмяны*.

У казанні другога прапаведніка чую заклік да прысутных, што *"члены церкви должны подчиняться своему пастырю"*. Выраз ***"подчиняться пастырю"*** так і засеў у маім вуху. Чаму "подчиняться"? свой выступ прапаведнік пачаў са словаў "братья и сёстры", дзе па духу адносін не павінна быць паміж членамі царквы "подчинения". З словаў ***"подчиняться пастырю"***, як тое шыла з мяшка, высоўваецца парушэнне дэмакратычных адносін паміж членамі царквы. У гэтых словах закладзены ўнутраны сэнс таго, што хтосьці стаіць вышэй чыноўнікам над кімсь ніжэйшым па рангу. І тут міжволі, а магчыма і з Боскай ласкі, успліваюць адпаведныя словы з беларускай мовы: расейскаму слову ***"подчиняться"*** беларускае слова ***"падпарадкоўвацца"***, а расейскаму слову ***"пастырь"*** цудоўнае багатае па зместу слова **"святар"**. Слова ***"святар"*** роднаснае словам: ***свята, святасць, святло***. Святар – гэта той, хто, хто нясе другім людзям свята (радасць), святло, светласць сваёй душы Расейскае слова ***"подчиняться"*** радаслоўнае словам, ***"чин"***, ***"чиновник"*** (начальнік).

***"Подчиняться"*** – гэта значыць быць пад чыноўнікам, ***"раболепствовать"***, пакланяцца, лічыць сябе ніжэй, нікчэмным перад ***"светласцю"***. Успомнім бытаваўшае ў часы Саюза выслоўе, калі людзі знаходзіліся ў цісках татальнага "подчинения". "Я начальник (чиновник) – я разумный, ты – дурак. Ты начальник – ты разумный, я – дурак".

Слова ***"падпарадкавацца"***, блізкае слову ***"парадак"***, азначае не парушаць і паважаць заведзены парадак, устаноўленыя правілы, законы, традыцыі, звычаі.

Калі б прапаведнік праводзіў свой выступ на беларускай мове, то такога цьмянага значэння некаторых выразаў з выступу не было б. Для беларусаў ад дзяцінства словы ***"лагодны"***, ***"пакорлівы"*** гучаць натуральна і зразумела. І калі б другі прапаведнік замест ***"подчиняться пастырю"*** гаварыў па-беларуску ***"падпарадкоўвацца святару"***, то адразу быў бы закладзены да разумення іншы сэнс сказанага. Гэта значыць падтрымліваць парадак у царкве, не парушаць яго. Парадак, добраахвотна прыняты, у любой суполцы непрыстойна парушаць. Вось чаму для разумення Слова Божага лепей служба для беларусаў у любой канфесіі на беларускай мове.

**2.** Бяда ў тым, што калі беларусы ўжываюць чужую мову, яны страчваюць сваю самабытнасць, індэнтычнасць, самаіснасць і ментальнасць. Іншамоўнае слова ***"ментальнасць"*** увасабляе тое, як людзі думаюць і паводзяць сябе ў розных абставінах, іх духоўныя памкненні да дзейнасці, характар пачуццяў, склад розуму.

Мова любога народа развіваецца пад уздзеяннем прыродных умоў: гістарычнага і сацыяльнага развіцця грамадства; культурнага, эканамічнага і моўнага ўзаемадзеяння з іншымі народамі; поступу цывілізацыі і нясе на сабе адбіткі ўсіх гэтых чыннікаў.

Прывядзем некаторыя прыклады, як у сэнсе слова закладзены разумовыя і духоўныя чыннікі паводзін і дзейнняў носьбітаў расейскай і беларускай моваў. Расейскае слова ***"Смирно!"*** аднаго кораня, што і слова ***"смиренный"***. Адпаведнае яму з беларускай мовы ***"Зважай!"*** аднаго кораня, што і слова ***"Увага!"***. Калі каманда ***"Смирно!"*** патрабуе весці падначаленых нерухома, ціха, паслухмяна, у пэўным сэнсе быць "истуканом", то слова ***"Зважай!"*** нясе патрабаванне быць уважлівым, пільным, разважлівым. Гэта абумоўлена рознымі гістарычнымі ўмовамі пабудовы войска Расейскай дзяржавы і Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ). У мілітарысцкай Расейскай імперыі войска складалі насільна ўзятыя новабранцы (рэкруты). Ад іх патрабавалася бясспрэчнае выкананне загадаў. Войска ў ВКЛ збіралася з вольнанаёмнай шляхты. Яна ў часы небяспекі для краіны павінна была па закліку сабрацца са сваім рыштункам на адпаведнае месца. Ганаровай шляхце не выгукнеш ***"Смирно!"***. У лепшым выпадку яна такі покліч праігнаруе.

Разгледзім некаторыя гістарычныя падзеі і факты, каб лепей асэнсаваць, на якім сацыяльным і гістарычным фоне ішло фармаванне беларускай і расейскай моваў. Расейская дзяржава была абсалютнаю манархіяй азіяцкага тыпу з бюракратычна-чынавенцкім апаратам знізу да верху. У ВКЛ выбраны кароль і "права вета" для шляхты яе было ў ВКЛ ля 10% ад колькасці насельніцтва. Гэта былі вольнанаёмныя ваяры. Іх гаспадаркі не абкладаліся падаткам. Яны павінны былі за свой кошт набываць сабе зброю і бараніць Радзіму. Шляхціц дбаў аб сваім гонары. Дадзенае слова не парушалася. Інакш шляхціц страчваў усякую павагу сяброўскага атачэння. У ВКЛ у 1588 годзе ўпершыню ў Еўропе быў выдадзены канчатковы поўны збор законаў – Статут ВКЛ, па якому былі ўпарадкаваны адносіны грамадзян. А ў 1791 годзе 3 траўня на сойме Рэчы Паспалітай ў Горадні была прынята першая ў Еўропе канстытуцыя, згодна якой касавалася прыгоннае права.

Па свайму сацыяльнаму і прававому ўладкаванню Рэч Паспалітая была вышэй абсалютных суседніх манархій. Мелася самакіраванне гарадоў, дэмакратычнае права вета для шляхты, узаемная павага вернікаў да веры розных цэркваў. Пасля падзелу Рэчы Паспалітай і захопу беларускіх земляў царскай Расіяй у канцы XVIII ст. Літва (Беларусь) у сваім прававым, сацыяльным, эканамічным і культурным развіцці была адкінута назад. Прыгонны лад праіснаваў яшчэ амаль стагоддзе да 1864 года. Паўсюдна закрываліся мануфактуры (прадпрыемствы). У тым ліку была закрыта славутая Слуцкая мануфактура па вырабу мастацка-каштоўных залататканых паясоў. У наш час кожны музей заходняй Еўропы за гонар лічыць мець у сваёй калекцыі слуцкі пояс. Маёмасць шляхты, якая брала ўдзел у паўстаннях канфіскавалася, а каштоўнасці палацаў і замкаў рабаваліся і вывозіліся ў Расею. Нават метрыку (архівы справаводства і дзяржаўных дакументаў) ВКЛ з Мірскага замку вывезлі ў Расею і скульптуры мармуровых ільвоў ад Ружанскага замка да аднаго з палацаў пад Санк-Пецярбург. Напрыканцы 18 ст. у межах Беларусі існавала 28 прыдворных тэатраў і 31 сімфанічны аркестр. Пасля захопу беларускіх земляў гэта знікла. Нават пасля двух стагоддзяў Беларусь не дасягнула таго, што мела. Была ліквідавана вольнасць (самакіраванне) гарадоў якую давала ім Магдэбургскае права. Так вольны горад Кобрын з навакольнымі вёскамі быў падораны імперыятрыцай Кацярынай II Сувораву за задушэнне паўстання пад кіраўніцтвам Касцюшкі. Сувораў стаў уладаром 12,5 тыс. прыгонных душ. Вольныя гараджане сталі прыгоннымі захопніка.

Беларусь належыць да заходнееўрапейскай хрысціянскай цывілізацыі. Аб гэтым сведчыць:

1. Наяўнасць замкаў, як у Нямеччыне, Францыі, Англіі, Гішпаніі і т.д.

2. Панаванне ў ВКЛ у сярэдневеччы ў навуковых установах лаціны, як і ў той час у заходніх краінах.

3. Абыццё ў сярэдневеччы на землях Беларусі Рэфармацыі, якая хваляй пракацілася па ўсёй Еўропе.

4. Існаванне на Беларусі да падзелаў Рэчы Паспалітай Магдэбургскага права, як і ў Нямеччыне.

5. Сувязі з заходнімі краінамі: а) культурныя (адзін Скарына што значыць), б) навуковыя (вучоба нашых землякоў ва ўніверсітэтах Чэхіі, Нямеччыны, Італіі, і наадварот праца заходніх навукоўцаў, архітэктараў і кампазітараў на Беларусі (у ВКЛ), в) рэлігійныя (існаванне каталіцкіх і пратэстанцкіх цэркваў).

Розныя сацыяльна-гістарычныя ўмовы вызначаюць ўнутраныя духоўна-сэнсавыя адрозненні значэнняў слоў у розных мовах, што не магло не адбіцца на складзе душы, духоўнасці носьбітаў гэтых моў.

*(Заканч. ў наступным нумары.)*

---

Ой не любіць сустракацца з тымі, хто цікавіцца беларушчынай, загадчык Гомельскага гарадскога ўпраўлення адукацыі Вадзім Сабко, - проста алергія ў яго на такія спатканні.

Яго я мог зразумець тады, пад час нашага круглага стала, які мы наладзілі ў абласным упраўленні адукацыі – тады ўсе разам спяшаліся ў тэатр, каб удзельнічаць у нейкай акцыі па замацаванню беларуска-расейскага саюза пад гучныя фанфары, і таму яно, канечне ж, важней, чым наладжаная размова Таварыства беларускай мовы пра праблемы і перспектывы развіцця беларушчыны, таму ўсе загадчыкі раённых аддзелаў адукацыі, не скончыўшы размову, дружненька пабеглі на сустрэчу...

Тады Вадзім Аляксандравіч спрабаваў колькі сказаў прамовіць па-беларуску, але ў яго тое кепска атрымоўвалася, і рады ўжо быў, калі нехта з калег прамовіў, што спазняюцца на ўшанаванне саюза, - спыніў свае намаганні...

На той час, напрыканцы года, у абласным упраўленні адукацыі была створана першасная суполка грамадскай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. У яе ўвайшлі начальнік упраўлення адукацыі Андрэй Лук'яновіч, намеснік – Лідзія Кацегава, а яны, у сваю чаргу абраны маімі намеснікамі – старшыні абласной Рады ТБМ, і яшчэ некалькі супрацоўнікаў упраўлення. І кожны з іх падпісаўся на газету ТБМ "Наша слова".

Дамовіліся і з В.Сабко, што такія суполкі будуць створаны ў гарадскім упраўленні, у кожным раённым аддзеле адукацыі горада, што кожны падпішацца на газету "Наша слова", тым больш што газета служыць добрым дапаможнікам для выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры, гісторыкаў, што настаўнікі будуць дасылаць туды свае допісы, расказваць, што зроблена цікавага ў сваёй школе...

Але Вадзім Аляксандравіч напачатку забыўся пра дамову, і нічога не сказаў раённым загадчыкам адукацыі, калі праводзіў з імі паседжанне ў сябе ў кабінеце, а потым з вялікім спазненнем перадаручыў тое зрабіць загадчыцы метадычнага цэнтра З. Канцавай... Суполка была створана ў іх, а Вадзім Сабко далучыўся толькі да іх, з усяго гарадскога ўпраўлення адзін. Як даказваў усё роўна, што беларусаў, ці хто б валодаў беларускай мовай, там, побач з ім, ва ўпраўленні, няма...

А некалі ж, калі быў загадчыкам гарадскога аддзела адукацыі, як раней назвалася ўпраўленне, Мікола Засінец, калі я працаваў у гарадской групе кнігі "Памяць" і нашыя дзверы былі насупраць, - то мы як ні штодня сустракаліся, абмяркоўвалі розныя справы і клопаты, ездзілі разам у школы на вечарыны і творчыя сустрэчы, - і выступаў ён заўсёды пад час нарад у гараа і ўсюды, дзе ні быў, толькі на беларускай мове... Я нават прыпайваў у друкавальную машынку "і" і "ў", каб усе дакументы Тамара Міхайлаўна – сакратар-машыністка прыёмнай – пачакальні, як вызначыў шыльдай Засінец, - адпраўляла ў раённыя аддзелы на роднай мове, а тыя, у сваю чаргу, дасылалі школам...

Добрымі памочнікамі ў яго былі Алесь Міткавец і Людміла Аляксашына, якія працавалі ў гарана. Добра размашляла і вяла справы па-беларуску Вольга Супрычова...

Першым "папрасілі " з гарана Міткаўца, потым – Алексашыну. А пасля і Міколу стала немагчыма працаваць... Цяпер ён у Мазыры працуе, не загадчыкам, канешне ж...

Тады начальнікам упраўлення адукацыі Гомельскага аблвыканкама прызначылі Міхаіла Кобрынскага. І загадчыца Савецкага аддзела адукацыі Лідзія Кацегава, калі ў аблвыканкаме ішло зацвярджанне, на ўсе лады расхвальвала Кобрынскага, даказваючы і абяцаючы, што абласную адукацыю ён падыме на вышэйшую прыступку. І пад час сустрэч са мной ён абяцаў запрашаць мяне да сябе на гарбату, каб удасканальвацца па беларускай мове, што ў вобласці вырасце колькасць нацыянальных школ...

Ну, Л. Кацегава тады неўзабаве пачала працаваць у яго намеснікам. Пра нашыя сустрэчы ён не напамінаў. А пра школы... Калі і былі якія беларускія, дык і тыя былі ліквідаваны і, больш таго, быў разасланы патаемны цыркуляр, каб не вывучалі ў ПТВ творы Гілевіча, Быкава і іншых беларускіх пісьменнікаў. Падымаў адукацыю? Ды як сказаць... Як фізкультурнік ён імкнуўся хутчэй напісаць і абараніць дысертацыю... А як ён яе пісаў, пра тое добра расказваў у прэсе журналіст Анатоль Гатоўчыц, але то ўжо, так бы мовіць, не нашая тэма.

Ужо чацвёрты год Вадзім Сабко як кіруе адукацыяй горада.

А тады, напачатку яго працы, праз колькі месяцаў, як ён быў прызначаны на гэтую пасаду, вырашылі мы – сябры гарадской і абласной Рады ТБМ – сустрэцца з новым кіраўніком, начальнікам гарадскога ўпраўлення, пагаварыць пра беларускія школы, як ён думае выпраўляць тое становішча, якое склалася. Са мной была старшыня гарадской арганізацыі ТБМ Валянціна Башлакова, былая настаўніца, Ігар Нямкевіч – выкладчык універсітэта...





# Адмова альбо тручэнне мышэй

## Заўвагі на палях педагагічна-школьнага сшытка

Быў прызначаны дзень і час нашай сустрэчы.

Але калі мы прыйшлі ў яго кабінет, то нас сустрэла яго намесніца – Наталля Жгірава.

- Здравствуйте! – звярнулася яна да нас. – Вадим Александрович очень занят – вместо него я буду отвечать на ваши вопросы…

Мы згадзіліся, селі за стол.

- В системе образования города… - пачала чамусьці першай сама расказваць намесніца, але я не ўтрымаўся, перабіў далікатная яе:

- Наталля Сяргееўна, выбачайце, але нашая размова павінна быць на роднай мове, на беларускай, бо…

- На каком хочу, на том и разговариваю, - нахмурылася незадаволена Н. Жгірава, - был референдум, у нас два языка государственных.

- Няхай будзе так. Калі мы да вас звярнуліся б на расейскай мове, то вы і адказвалі б нам па-расейску, але мы вам пытанне хочам задаць на другой, як вы кажаце, дзяржаўнай мове, на беларускай. Як тады нам быць?

- Я буду с вами разговаривать, как я захочу…

- Тады, даруйце нам, мы, мусіць, прыйшлі не да прадстаўнікоў адукацыі, і таму ад дальнейшай гутаркі адмаўляемся. Калі вы не можаце з намі гаварыць на тытульнай мове, то можа тое здолее ваш кіраўнік…

Не атрымалася сапраўды размовы. І мы разумелі раздражнёнасць Н. Жгіравай – і чаго толькі чэпяцца "со своим языком", перашкаджаюць працаваць…

Калі перад Новым годам я прыйшоў на сустрэчу з В. Сабко, давялося доўга чакаць яго ў пачакальні. Першае, што кінулася ў вочы, - шыльды на дзвярах былі на расейскай мове. а на сцяне вісеў вялікі плакат-каляндар – "С молодежью Росии – в XXI век!" Калі праз паўгадзіны зайшоў да яго, то і спытаў найперш пра шыльды і каляндар.

- А какая разница, на каком языке "шильды"? Мне так все равно… А календарь – ну и что такого? У нас же два языка…

Я зразумеў, што розніцы паміж намесніцай і ім не было ніякай – аднолькавае непрыняцце беларускага, аднолькавае недаўменне, чаго непакояць такімі пытаннямі – ніхто да іх не прыстае акрамя Таварыства беларускай мовы…

Са мной побач знаходзіцца СШ №11. На сцяне пры ўваходзе вісела раней шыльда, выробленая з бронзы ці іншага металу, з назвай школы на беларускай мове. З ранейшым дырэктарам – Зміцерам Андрэевічам Ляўчуком -- я часта сустракаўся ў школе, на вуліцы, размаўлялі з ім на роднай мове, шмат гаварылі пра культуру, адукацыю… І яго чамусьці замянілі – ці не за беларускасць? Прыйшоў новы дырэктар – П. Чындараў, які да гэтага быў завучам у беларуска-славянскай гімназіі, дзе дырэктарам Т. Цыганок.

І трэба было ж яму так ненавідзець беларускую мову, што, стаўшы дырэктарам ён адразу ж змяніў тую шыльду, а павесіў над дзвярамі на расейскай мове, а тую недзе выкінуў, каб і не напамінала, каб і забыліся пра яе… Аднак кажуць, што яе скралі і ён вырабіў новую. Але ж толькі чаму адну, ды і тая з верасня вісіць, не мяняецца і не дапаўняецца параўнальнай?

Завітаў па іншых справах у тую школу. На другім паверсе школьныя стэнды. Усе на расейскай мове. Ніводнага слова на роднай мове. На адным стэндзе прачытаў парады псіхолага. Зацікавіўся. А потым здзівіўся. Вучань украў у школе нейкую рэч і прынёс дадому. Самае простае сказаць бацькам, каб сын аднёс тую рэч назад і аддаў, ці не так? Але псіхолаг з веданнем педагагічнай справы раіць бацькам, каб тыя навучылі сына схлусіць, быццам гэта ён ненарокам узяў тую рэч і непрыкметна вярнуў яе ў школу. На мой погляд гэта выглядала як парада, парада, як трэба вучыцца сыну ці дачцы хлусіць. А ў Бібліі сказана: "Аднойчы схлусіўшы…"

Расказаў пра тое В. Сабко.

- Хорошо, я разберусь, - чамусьці паабяцаў начальнік, быццам я да яго прыйшоў са скаргай, - и почему снял директор вывеску с белорусским названием, и с советами психолога…

- А пытанне цікавіць мяне такое – на якой мове вы вядзеце справаводства і выступаеце на педагагічных паседжаннях?

- Решением горисполкома все отделы ведут делопроизводство на русском языке. Мы подчиняемся такому решению. Вот сегодня исполком – поставлю такой вопрос перед председателем.

Начальнік упраўлення зноў некуды спяшаўся і мы не дагаварылі з ім па ўсіх пытаннях, якія я мерыўся задаць яму. Развіталіся, дамовіўшыся прадоўжыць некалі пазнейшую гутарку…

Кожны год, восенню, калі пачынаецца верасень і занятк ў школе, па ўсім горадзе развешаны транспаранты "Поздравляем с началом учебного года!", "Школьный базар" і гэтак далей.

Аддзел культуры піша свае афішы і віншаванні са святам на адной з дзяржаўных моваў, але не на роднай. Раней, калі загадвала аддзелам культуры Лідзія Сайкова, яна рупілася, каб усе паперы з аддзела культуры дасылаліся на беларускай мове. А цяпер кіруе аддзелам Людміла Альхавікова, якую перавялі са Светлагорска. Яна добра валодае мовай, і мае сяброўства са Светлагорскімі паэтамі Соф'яй Шах і Ізяславам Катляровым, а прынцыпова не ўжывае родную мову. На апошнім паэтычным салоне ў гарадской бібліятэцы, калі ўшаноўвалі светлагорскіх паэтаў, - загадчыца чамусьці баялася ўжываць мову тытульнай нацыі. Як пракажоная наша мова для аддзела культуры. Як нехта адзін даў агульную каманду – не ўжываць!

Але зноў жа – гэта тэма для наступнага артыкула.

Заўсёды раніцай, перад пачаткам занятак у той жа 11-й школе, збіраюцца купкамі далей ад школы каля жылых дамоў, старшакласнікі – хлопцы і дзяўчаты. У дублёначках, у джынсіках, такія сучасныя акселераты. У кожнага ў руцэ цыгарэтка.

І чуваць іх мацюкі на самых верхніх паверхах. Спрабавалі ім нешта сказаць, прысарамаціць бабулькі, што жывуць у тым доме, але ў адказ пачулася такая брыдкая лаянка, што бабулькі больш і не асмельваліся нешта гаварыць ім…

Мацюкі – на расейскай мове. На той, пра што і сведчыць вывеска школы…

І мусіць жа, тыя дзяўчаткі, якія ў будучым будуць нявестамі і маці, не расказваюць сваёй матулі ці тату, што яны смаляць каля пад'ездаў, а ў халодныя дні дык і ў пад'ездах, смуродзячы дымам лесвічны стаяк, - хлусяць і ў школе, і дома, бацькам, што не кураць яны, не мацюкаюцца…

"Аднойчы схлусіўшы…" Маленькая, бяскрыўдная хлусня, нараджае новую яшчэ большую, і ўжо як снежны камяк яна будзе расці і расці… Бо – "Аднойчы схлусіўшы…" Ведае пра такое дырэктар? І ці ведае пра тое начальнік упраўлення? Калі яму скажу пра тое, то пачую альбо "какая разница", альбо – "разберусь"…

Зноў і зноў набіваюся на сустрэчу. Дамовіліся, што патэлефаную а чатырнаццай гадзіне, а сустрэнемся ў семнаццаць. Званю – кароткія гудкі, але праз нейкі час зусім не адказвае… Тады набіраю пачакальню – Тамару Міхайлаўну.

- Начальник уехал в Новобелицу…

- Для мяне нічога не перадаваў?

- Нет…

Але я прыйшоў а семнаццатай гадзіне. В.Сабко быў у кабінеце. Аднекуль прыехаў.

Заходжу. Сядаю насупраць. Цікаўлюся, на якой мове будзе праходзіць гутарка, і як ён адносіцца да таго, што Жгірава адмовілася з намі размаўляць на мове Багдановіча. Калі ён не захацеў сустрэцца з намі, а даручыў ёй… Не адказаў, не даў сваю ацэнку. Як абараніў, як і не ўбачыў у гэтым нічога дзіўнага.

- А о чем будем говорить? – удакладніў адразу Вадзім Аляксандравіч.

- Пра што? Пра праграму дадатковых мераў па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі. Яна, дарэчы, зацверджана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь 27.08.2001 года. Таму мы б хацелі пачуць ад вас, Вадзім Аляксандравіч, адказы на такія пытанні – што зроблена ці што мяркуеце вы гарадскім упраўленнем зрабіць у плане вядзення справаводства на беларускай мове, пункт 5, ужыванне беларускай мовы пры правядзенні педагагічных саветаў школ, ПТВ ССНУУ, 6-ты пункт першага раздзела. І асобная размова пра раздзел трэці, дзе ў п. 1 сказана чорным па белым: "Пашырыць сетку агульнаадукацыйных школ з беларускай мовай навучання ў гарадской мясцовасці. У кожным раённым цэнтры, раёне гарадоў адкрыць не менш адной школы з беларускай мовай навучання"…

- Где вы такое прочитали? – здзівіўся Вадзім Аляксандравіч.

Я падаў яму газету "Наша слова". Ён углядаўся ў тэкст, потым прызнаўся:

- Первый раз вижу такой документ. Может в отпуске был в это время…

- А ў абласным упраўленні па гэтым дакуменце распрацаваны мерапрыемствы. Мне іх паказвала Тамара Гапонава – начальнік аддзела арганізацыі кіраўнічай і вучэбнай дзейнасці. Нашая газета два разы друкавала гэта дакумент. Але вы ў тым годзе яшчэ не падпісваліся на "Наша слова". Цяпер, падпісаўшыся, вы будзеце ведаць пра тыя дакументы, якія не друкуюць дзяржаўныя СМІ. А тое, што нас цікавяць пытанні пашырэння сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі – гэта не нашая прыхамаць, кіраўнік нашай дзяржавы ў сваёй перадвыбарнай праграме гаварыў аб рэальнай роўнасці беларускай і расейскай моваў. А згодна Праграмы гарантаваны працяг спецыяльнай і вышэйшай адукацыі па-беларуску.

- Я паклаў на стале дыктафон, каб запісаць нашую гутарку… Але Вадзім Аляксандравіч спахапіўся, (а мо і напужаўся, як некалі М. Кобрынскі, аж падскочыў за сталом, убачыўшы дыктафон) зірнуў на гадзіннік, сказаў нечакана:

- Я спешу на "Зорную ростань", думал, что у нас краткий будет разговор, о подписке, а выходит – разговор надолго…

Зноў не атрымалася размовы.

У прыёмнай прашу Тамару Міхайлаўну, каб уклала тую ж "Праграму дадатковых мер…" у папку для славянска-беларускай гімназіі – Для Тацяны Цыганок, да якой таксама не дайшоў гэты важны дакумент.

- Тамара Міхайлаўна пільна вывучала "Праграму", а потым спалохана спыталася:

- Так теперь что – перейдём снова на белорусский?

- З заўтрашняга дня, - жартую я, бо ведаю жанчыну даўно, і ведаю, што яна не пакрыўдзіцца на жарт.

Але яна абурана перапытала:

- А разве был уже референдум на эту тему? – не хаваючы свайго абурэння і трывогі. – Народ должен сказать свое слово…

Я разумею, ёй вельмі не да спадобы ламаць галаву над беларускай мовай, калі давядзецца рыхтаваць дакументы, - яе палохае вяртанне да ранейшага…

Але ж гэта і яскравы малюнак таго, як упраўленне адукацыі не прымае гэтую тэму, з усіх сілаў упарцікца, працівіцца, паказваючы яўнае нежаданне станавіцца на агульныя рэйкі Беларушчыны…

Прыйшоў а семнаццатай гадзіне на наступны дзень.

Вадзім Сабко сядзеў нерасрпануты ў сваім кабінеце. Насупраць яго сядзела яго намеснік – Наталля Жгірава. Сакратарка паспрабавала не пускаць мяне ў кабінет, сказаўшы, што начальнік вельмі заняты. А чакаць мне не выпадала.

Пераступіўшы парог, але стоячы каля дзвярэй, бо гаспадар кабінета і не запрашаў мяне прайсці далей і сесці, не прычыняючы іх, спытаў у В. Сабко:

- Дык ці ёсць настрой пагаварыць са мной, Вадзім Аляксандравіч?

- Сегодня нет, - адразу ж адказаў начальнік упраўлення, - времени нет, да и устал сильно…

- Але ж вы самі прызначылі час на сёння.

- Жизнь вносит свои коррективы, - паціснуў ён плячыма.

- Тады можа заўтра ў такі ж час?

- Хорошо, - без асаблівай зацікаўленасці згадзіўся В. Сабко.

- Вадим Александрович, - схапілася Наталля Жгірава, - мы же завтра в это время травим мышей…

- Ах, да, - падтрымаў абрадавана яе начальнік. – Но вы мне позвоните завтра в два часа, и мы условимся о встрече…

Званю, як прасіў начальнік упраўлення адукацыі, - роўна а чатырнаццатай гадзіне.

Тэлефон маўчаў.

А мне падумалася – мусіць пільна занятыя, - рыхтуюць мерапрыемствы па знішчэнню мышэй у гарадскіх вучэльнях, альбо шукаюць атруту для гэтага ад казнага мерапрыемства.

А што – для гарадскога ўпраўлення адукацыі гэта важней, чым пытанне адраджэння, вяртання беларускіх школ. За гэта ні перад кім справаздачу трымаць не трэба, а вось колькі будзе атручана ў горадзе мышэй – тут лічбы, мусіць, трэба дакладныя… Хаця б для той жа і санстанцыі… Яна ж мае права патрабаваць ад начальніка ўпраўлення справаздачы, а мы, ТБМ, толькі просім, спадзяючыся на ласку чыноўніка…

І мне расхацелася больш прызначаць сустрэчу.

Бо ўпэўнены – нічога новага ад начальніка не пачую. Бо ён і че захоча сустрэцца са мною – а што, яму за гэта нічога не будзе. Ён жа – начальнік, а я толькі старшыня, ды і то – на грамадскіх пачатках…

Ды і не здолее ён распавядаць пра справы на мове тытульнай нацыі.

Так як і яго намесніца Н. Жгірава, якая заяўляла нам, нават дыктавала свае ўмовы – "на каком хочу языке, на том и разговариваю".

Буду чакаць, калі Вадзім Аляксандравіч сам зразумее, што мы павінны разам рабіць адну вялікую і неабходную справу – вяртанне Беларусі яе мовы, культуры і – гонару. І не ўцякаць, не адступаць, робячы крокі назад, а крочыць насустрач тым праблемам і клопатам, якія разам з іншымі існуюць у сістэме адукацыі.

Так дыктуе жыццё. Да гэтага абавязвае "Праграма", якую, на жаль, і ў вочы не бачыў яшчэ начальнік упраўлення адукацыі горада Гомеля.

Ці проста хлусіць, як раіць гэта рабіць псіхолаг-педагог?

А можа гэта і на Вадзіма Аляксандравіча яна (ці ён – прозвішча, на жаль, не ўказана) аказвае такое чароўнае ўздзеянне і ўплыў?

*P.S. Працяг тэмы як кажуць будзе далей…*

***Анатоль Бароўскі, пісьменнік, старшыня Рады Гомельскай абласной арганізацыі ТБМ імя Францішка Скарыны.***

# БЕЛАРУСЫ-ЛІЦЬВІНЫ ЧАРНІГАЎСКАЙ ГУБЕРНІ

У рускай краязнаўчай літаратуры XIX – пачатку XX ст. паўночная частка Чарнігаўскай губерні (сучасная Браншчына) вылучалася ў асобны этнаграфічны рэгіён. Тут спакон веку пражывала беларускае насельніцтва, патомкі радзімічаў, ці, як іх яшчэ называлі, ліцьвіны. Ужо ў горадзе Бранску, пісала "Жывапісная Расія", на базарах пераважае белая магерка, класічны беларускі каўпак, ці капялюш без палёў, і тая "кароценькая і вузенькая світа, што адрознівае беларуса ад малароса". Такая ж розніца заўважаецца і ў гаворках. Назва "беларус", заўважае далей аўтар, вядомы рускі пісьменнік і этнограф С. Максімаў, "штучная, кніжная, афіцыйная. Сябе патомкі крывічаў пад гэтай назвай не ведаюць, хаця па сутнасці нельга падабраць для іх больш тыповага эпітэту. Беларусы яны сапраўдныя: белы колер пераважае; у карэнных усё белае: твар, валасы, кашуля, капялюш, штаны, кажух і світа...".

Рускае і украінскае насельніцтва, што пражывала па другі бераг ракі Дзясна, называла сваіх заходніх суседзяў не беларусамі, а ліцьвінамі. У XIX ст. беларусы-ліцьвіны складалі аснову сельскага насельніцтва Суражскага, Мглінскага, Навазыбкаўскага і Старадубскага паветаў. Паводле Усерасійскага перапісу насельніцтва 1887 года, у Чарнігаўскай губерні пражывала 151465 беларусаў, якія размаўлялі на беларускай мове і лічылі яе роднай. Беларуская мова ўстойліва захоўвалася ў вуснай фальклорнай традыцыі. Аднак пры адсутнасці нацыянальнай школы колькасць беларускамоўных жыхароў тут няўхільна скарачалася.

З асобай цеплынёй піша аб ліцьвінах Марыя Косіч, якая расла і выхоўвалася ў мясцовым асяроддзі ў маёнтку свайго дзеда каля в. Расуха Мглінскага павету "Змусьце беларускую жанчыну, - заўважае яна, - расказаць штонебудзь, услухайцеся ў гэтую мову, і вы знойдзеце ў ёй своеасаблівую мяккасць і лёгкасць гукавых спалучэнняў".

Марыя Косіч дае трапныя і праўдападобныя ацэнкі народнага характару ліцьвіна, яго гнуткасці (нягледзячы на кансерватызм) і прыстасаванасці да зменлівых сацыяльных умоў. "Ліцьвін, - піша М. Косіч, - з выгляду непаваротлівы, рухі яго замаруджаныя, ходзіць "як пень цераз калоду", непрадпрымальны, бестурботны, аднак пры неабходнасці працуе шмат для свайго пражытку. А як толькі міне крайняя патрэба, заўсёды лічыць за лепшае пагуляць, чым шукаць заробкаў".

Аўтар другой краязнаўчай працы, прысвечанай Чарнігаўскай губерні, М. Дамантовіч разглядаў народны характар і ўласцівыя тутэйшаму люду маральныя якасці як залог яго развіцця ў будучым. Ён вылучаў чарнігаўскага ліцьвіна ў асобны этнаграфічны тып, што складаў "супрацьлегласць стэпавіку", адзначаў яго незвычайную вынослівасць у экстрэмальных сітуацыях і г. д. Чысты тып беларуса, на думку Дамантовіча, назіраўся ў Мглінскім, Суражскім, Навазыбкаўскім і часткова ў Гараднянскім паветах. Далей на поўдзень, бліжэй да Чарнігава, узмацняўся паўднёва-рускі элемент, а сярэдняя паласа Чарнігаўскай губерні, на думку аўтара, адносілася да новай этнаграфічнай групы, што ўтварылася ў выніку міксацыі ўкраінцаў і беларусаў. Сярэдняя беларуская сям'я ў гэтым рэгёне, паводле дадзеных перапісу 1897., налічвала 5-6 чалавек. Звяртае на сябе ўвагу пастаянства і трываласць шлюбаў: сярод 65 тыс. дарослых жыхароў, што знахо-дзіліся ў шлюбе, разведзеных было ўсяго 13 чалавек (3 мужчыны і 10 жанчын), - лічбы непараўнальныя з сучасным становішчам.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі на карце Расійскай Федэрацыі з'явілася Бранская губерня, куды ўвайшла паўночная частка былой Чарнігаўскай губерні. Пры адсутнасці нацыянальнай школы звужалася сфера ўжывання беларускай школы, ішлі непазбежныя працэсы інтэграцыі і асіміляцыі беларускага насельніцтва.

*В. С. Цітоў*

# "Віленскай беларускай гімназіі – 83"

***Вось Базыльянскія муры,***
***У класе – цішыня густая.***
***А мы а позняе пары***
***З табой***
***наш часапіс складаем...***
**Наталля Арсеньева.**

Каждую пятніцу ў беларускай школе імя Фр. Скарыны праводзяцца традыцыйныя лінейкі – падводзяцца вынікі мінулага тыдня, абмяркоўваюцца планы на будучы. 1 лютага – самае Вялікае свята ў нашай школе – Дзень гімназіі, і Дзень нараджэння школы. Да гэтага свята і настаўнікі і вучні рыхтуюцца загадзя, старанна. Таму і лінейка 1 лютага была незвычайнай. Вучні па-сьвяточнаму прыгожа апрануты, хлопчыкі ў касцюмах, дзяўчынкі ў белых кашульках і чорных спадніцах. Пачалася лінейка ўрачыста, усе разам спявалі школьны гімн на словы Ул. Някляева "Сёння ў нашай школе свята", павіншавалі нашага старэйшага настаўніка, былога вучня віленскай беларускай гімназіі з славутага роду Станкевічаў – Яраслава Станіслававіча Станкевіча. Успомнілі пра гісторыю гімназіі, адзначылі, які адметны след у гісторыі пакінулі яе вучні, і якое яна мела і мае значэнне для беларускага адраджэння. Пасля заняткаў адбыўся канцэрт вучняў пачатковых класаў, асабліва вылучаліся першакласнікі і актыўнасцю, і артыстычнасцю, і непасрэднасцю. Ва ўсіх звонкія галасы, добра чыталі вершы, смяшнікі. Гэта быў і дэбют, першы канцэрт у школе. З кожным выступленнем адчуваецца творчы рост Эвеліны Базюк, вучаніцы 6 класа. Яна выконвае сольныя нумары. Дырэктар школы сп. Г. Сівалава прадставіла гасцей свята – Галіна Войцік-Луцкевіч выпускніца Віленскай беларускай гімназіі, доктар філалогіі, Аляксей Анішчык – былы выкладчык Навагрудскай гімназіі, пісьменнік, Лявон Мурашка – прэзідэнт ЗБЛ і Яраслаў Станкевіч. Усе яны выступалі перад вучнямі нашай школы з успамінамі, дзякавалі за добры канцэрт, а А. Анішчык нават падараваў свае кніжкі "Сяргей Хмара" і "Навагрудская беларуская гімназія". "Раней нас называлі недабіткамі, а пра гімназію нельга было ўспомніць, - адзначыла Галіна Войцік, - з выкладчыкаў гімназіі ў Менску жыве А. Фёдараў (выкладаў спевы і кіраваў хорам), у Франкфурце на Майне – Барыс Кіт (выкладчык матэматыкі). Шмат цёплых слоў было сказана пра настаўніцу беларускай мовы Алену Сакалову – Лекант, яна выкладала ў гімназіі на працягу 25 гадоў і пра выкладчыка рэлігіі і латыні кс. Адама Станкевіча. З аднакласнікаў Галіны Войцік у Вільні жыве Соня Тулейка, у Польшчы – К. Буткевіч і М. Канапацкі. Сп. Галіна Войцік-Луцкевіч часты і пажаданы госць у нашай школе, дзеліцца ўспамінамі, друкуецца ў газеце "Рунь", рэдактар беларускай праграмы на літоўскім радыё, аўтар серыі "Партрэты віленчукоў" пачатай яе мужам Лявонам Луцкевічам. Вечарам з сваёй канцэртнай праграмай выступілі старшакласнікі, яны на суд гледача паказалі ўрывак з купалаўскай "Паўлінкі". Да першага лютага ў школе адбылася вучнёўская навуковая канферэнцыя "Дарогамі беларускага нацыянальнага адраджэння", выступіла выкладчыца ВПУ Ніна Пяткевіч, а потым – з дакладамі вучні 9-12 класаў. Працавалі дзве секцыі: "Грамадска-культурнае жыццё напачатку 20-га стагоддзя" і "Найвыдатнейшыя постаці беларускага адраджэння". Усе класы да свята рыхтавалі стэнд газету "Як мы выраслі ў гэтай школе". Тут, па-сапраўднаму, вучні паказалі свой густ і талент, у кожнага класа свая назва, напрыклад, "Ад 1-га да 6-га", "Гісторыя нашага класа", "Вернемся назад", "Наш 4 клас" і г.д. Прыгожа аформлены, шмат фотаздымкаў, сачыненні і вершы вучняў, кожны клас з сваім кіраўніком адлюстраваў гісторыю класа на працягу вучобы ў нашай школе. Да дня гімназіі выйшаў першы нумар і школьнай газеты "Наша газета". Так адсвяткавалі 83-ю гадавіну Віленскай беларускай гімназіі ў школе імя Фр. Скарыны.

*Леакадзія Мілаш*
*2 лютага 2002 г.*
*г. Вільня.*

# "Прыз" Івана Жытко

*Нядаўна ў Берасці выйшла чарговая кніжачка гумарэсак "Прыз" сябра ТБМ з г. Камянца сп. Іван Жытко. Мы віншуем аўтара з чарговым выданнем і прапануем чытачам "Нашага слова" яго гумарэску "Гульня ў шафёраў".*




## Гульня ў шафёраў

Юра і Лена з сярэдняй групы дзіцячага сада селі за стол, абстаўлены дзіцячым посудам.

- Давай гуляць у шафёраў, - прапанаваў Юра.

- Ты будзеш маёй жонкаю.

- А мой тата не шафёр, а трактарыст, - адказала Лена.

- Нічога. А п'яны дамоў прыходзіць?

- Прыходзіць.

- Мой таксама. Пачнем?

- Пачнем.

- Ну, дарагая, я сёння з'явіўся, як ніколі, цвярозы пасля выпітай бутэлькі гарэлкі.

- А як жа ты кіраваў аўтамашынай?

- Прыехаў. Каб ты бачыла, як сябра імчаў, хоць і менш выпіў.

- Што-небудзь здарылася?

- Нічога асаблівага. Толькі сваім грузавіком зачапіў за воз. Конь перапалохаўся, скінуў хамут...

- А твой сябра?

- У яго была таблетка пад языком. Даведку атрымаў, што цвярозы.

- У старыну, каб прадаць каня на кірмашы за добрыя грошы, паілі яго гарэлкай. Магчыма і гэты конь быў не цвярозы, калі на машыну палез.

- Ты думаеш п'яны?

- А які? Не ўцёк жа ён з месца здарэння, а ногі працягнуў.

- Хопіць пра гэта, падавай гарэлку, - закрычаў Юра і стукнуў сваім дзіцячым кулачком па стале.

- Супакойся, дарагі. Ты ведаеш, што яна ў нашым доме ніколі не затрымоўваецца.

- Зразумела. Затое ў нас ёсць добрыя дзядзі і цёці, якія гандлююць гарэлкай круглыя суткі. Аўтамабіль каля хаты. Прывязу.

- Нікуды я цябе не пушчу.

- А я ўсё роўна паеду.

- Пазваню ў міліцыю.

Юра падымаецца з-за стала...

У пакой увайшла выхавальніца і гульня была спынена.

Даўно пара спыніць і тых, хто дае падставу дзецям для падобнае гульні.

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 18. 02. 2002 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 321.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 418 руб., 3 мес.- 1254 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.